# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 34 (808) ГОД XVI БЕЛАСТОК 22 ЖНІЎНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.




Дуброва Беластоцкая хутка разбудоўваецца. Фота Цаф — Р. Сянько

## АЙЧЫНЕ-САБЕ-ВЁСЦЫ

Самаадданай і ахвярнай працай уключылася вясковая моладзь Гайнаўскага павета ў рэалізацыю заклiку «Айчыне—сабе—асяроддзю». Больш 1600 маладых дзяўчат і хлопцаў пад кіраўніцтвам сваёй арганізацыі ЗМВ. працавала пры пабудове і рамонце дарог, спартыўных пляцовак, паўстанкаў ПКП і ПКС, клубаў, а таксама пры пасадцы лесу. Вартасць іх працы ацэньваецца на 275 тысяч злотых.

Апрача таго члены ЗМВ з Гайнаўскага павета прынялі на сябе абавязацельствы адносна павелічэння жывёлы і свінагадоўлі, загаспадаравання недастаткова выкарыстаных зямель, распаўсюджвання культуры, тэхнічных ведаў і іншыя.

Аднак праца гурткоў ЗМВ не канчаецца на падыйманні ўласных ініцыятыў. Супрацоўнічаюць яны з гарцэрскімі дружынамі, якія існуюць амаль у кожнай пачатковай школе. Тут, на Гайнаўшчыне, можна часта сустрэць, што член ЗМВ з'яўляецца гарцэрскім інструктарам і дапамагае або сам вядзе гарцэрскую дружыну. У гэтым годзе гурткі ЗМВ з дружынамі ЗГП вялі акцыю «Бывай, восьмы клас!» Датычыла гэта інфармацыі аб магчымасцях здабыцця прафесіі гаспадара або іншай прафесіі, якая дае магчымасць атрымаць працу ў мясцовым асяроддзі. Члены ЗМВ інфармавалі таксама выпускнікоў пачатковых школ аб дзейнасці арганізацыі і канкрэтна свайго гуртка. У выніку гэтай акцыі некаторыя выпускнікі актывісты ЗГП уступілі ў рады зэтвуэмоўскай арганізацыі і многія зложылі заявы ў сельскагаспадарчыя школы.

Факты гэтага маладзёжнага зрыву і супрацоўніцтва вітаем з прыемнасцю. Хацелася б, каб яны сталі штодзённымі.

(ак)

ГАСПАДАРКА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## НЕЯК БУДЗЕ

Ваяводскае статыстычнае ўпраўленне ў Беластоку аб'явіла нядаўна вынікі сваіх даследванняў над станам гаспадаркі Беласточчыны ў першай палавіне 1971 года.

Вядома, што ў гэтым перыядзе эканамічныя праблемы нашай краіны (дык таксама і Беласточчыны) ажыццяўляліся пры новай, болей спрыяльнай грамадска-палітычнай атмасферы. Дык зусім паслядоўна ўзнікае пытанне: на колькі гэтая новая атмасфера садзейнічала ажыццяўленню заданняў, прадбачаных планам.

У гушчары сухіх статыстычных паказнікаў аднaзначнага ды яшчэ станоўчага адказу на гэтае пытанне мы, на жаль, не знойдзем. У гаспадарцы ніколі не бывае цудоўных, раптоўных перамен. Усялякія занядбанні папярэдняга перыяду доўгі яшчэ час кладуцца чорным ценем на будучыню. На карэнныя пераўтварэнні трэба чакаць.

Асабліва ярка відаць гэта ў сельскай гаспадарцы. Першае, што тут непакоіць, гэта змяншэнне агульнай плошчы пасеваў, якое выявілася ў Беластоцкім ваяводстве ў выніку чэрвеньскага сельскагаспадарчага перапісу. Памяншэнне невялікае, у параўнанні са станам з чэрвеня мінулага года ўсяго ледзь на дзве дзесятыя працэнта. Аднак калі прымерыць гэтыя 0,2 працэнта да канкрэтнай плошчы пасеваў, *аказваецца, што недзе прапала амаль дзве тысячы гектараў зялёнай нівы.* Датычыць гэта перш за ўсё аднаасобніцкай гаспадаркі. Шкада, што ваяводскае статыстычнае ўпраўленне не падае прычыны гэтага змяншэння. Зямля ж не соль і не вада, не магла яна ані растварыцца, ані выпараваць. Значыць, не хапіла ў нейкай часткі нашых гаспадароў зацікаўлення, каб павялічваць плошчу пасеваў, значыць, гэтыя амаль дзве тысячы гектараў зямлі ляжалі цалінoй. З'ява гэтая выступіла як лёгка дадумацца, яшчэ восенню 1970 года, перад снежаньскімі пераменамі.

Новае партыйнае і дзяржаўнае кіраўніцтва правяло, як вядома, шмат канкрэтных мерапрыемстваў, якія стымулююць тэмпы развіцця сельскай гаспадаркі. Аблічаны яны на шматгадовае ўздзеянне. Але ўжо цяпер можна наглядаць іх карысны ўплыў. Чэрвеньскі перапіс, для прыкладу, выявіў узрост зацікаўлення гадоўляй свіней. Гаспадары пакідаюць на расплод свінаматак,

Працяг на стар. 4

## ПАРТЫЙНЫЯ СХОДЫ

Статутова-арганізацыйная камісія павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы, якая працуе пад кіраўніцтвам сакратара ПК партыі Васіля Паскробкі, сваё апошняе пасяджэнне прысвяціла вельмі важнай справе ўнутрыпартыйнага жыцця. Таварышы абмяркоўвалі праблемы партыйнага сходу, яго ролі ў фармаванні ідэйна-палітычнай паставы членаў партыі. На пасяджэнні камісіі былі падсумаваны нагляд і доследы, якія вяліся ўжо нейкі час павятовым кіраўніцтвам.

Пасля V З'езда партыі гайнаўскі камітэт прысвяціў сходам нямала ўвагі: былі яны прадметам глыбокай ацэнкі экзекутывы ПК і пленарнага пасяджэння. На нарадах у асяроддзях быў зроблены абмен вопытам у арганізаванні сходаў. Гэта мела вельмі важны ўплыў на паляпшэнне зместу партыйных сходаў, на ўмацаванне прынцыпу калегіяльнасці ў іх працы. Цяпер большая частка сходаў лепей спаўняе сваю ролю: яны сапраўды з'яўляюцца найвышэйшай уладай партыйных арганізацый, на іх калектыўна вырашаюцца галоўныя праблемы прадпрыемстваў, вёсак, асяроддзя. Напрыклад, у вёсцы Войнаўка ў час пракладкі дарогі, будовы святліцы і дзякуючы паляпшэнню забеспячэння будаўнічымі матэрыяламі за кароткі час у партыю ўступілі 4 кандыдаты. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне, што аўтарытэт арганізацыі расце ў дзейнасці па выкананню галоўных замыслаў грамадскасці.

Аднак шмат яшчэ партыйных сходаў і далей не выканала сваіх статутовых заданняў. Гэта датычыць галоўным чынам арганізацый, якія дзейнічаюць ва ўстановах, часткова ў спулдзельчасці і ў некаторых вёсках. Сходы там бываюць нецікавыя, часта на іх не ставяцца найбольш актуальныя, цікавячыя ўсіх членаў партыі справы. Нярэдка яшчэ ад сабраных чакаюць толькі пацвярджэння раней падрыхтаваных пастаноў, а не творчага ўдзелу і дапамогі ў вырашэнні спраў. Такі падыход родзіць тупое паслушэнства і знеахвочванне сярод членаў партыі: сходы перастаюць выконваць сваю выхаваўчую ролю, знікае творчая і канкрэтная крытыка.

Таварышы з гайнаўскага камітэта вырашылі праверыць, які ўдзел прымаюць у сходах члены партыі — рабочыя і сяляне. Аказалася, што калі на вялікіх прамысловых прадпрыемствах і ў многіх вёсках яны прадстаўляюць большасць дыскутантаў, дык у скрытыкаваных арганізацыях найбольш ёсць гэтак званых штатных дыскутантаў, якія выступаюць на кожную тэму, не дапускаючы іншых да слова.

Чаму так робіцца?

Нямала сходаў слаба падрыхтаваных, не парушаюцца на іх галоўныя праблемы асяроддзя, не ствараецца клімат для шчырага выказвання ўваг і сумненняў, крытыкі няправільнага настаўлення некаторых таварышаў, незалежна ад функцыі, якую выконваюць. Шмат сходаў не канчаецца прыняццём канкрэт-

Працяг на стар. 4



У сонечных праменях. Фота Цаф — Р. Сянько

## Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

## СВЕТ

### ДАГАВОР ДРУЖБЫ

Ва ўрачыстай абстаноўцы ў Дэлі быў падпісаны Дагавор аб міры, дружбе і супрацоўніцтве паміж СССР і Індыяй. Ад імя Савецкага Саюза дагавор падпісаў міністр замежных спраў СССР А. Грамыка, ад імя Рэспублікі Індыі — міністр замежных спраў Індыі Сваран Сінгх.

Пасля падпісання дагавору міністры абмяняліся прамовамі.

Цяжка пераацаніць значэнне гэтага дагавору, — заявіў міністр замежных спраў СССР. — Дагавор вянчае прынцыповы і паслядоўны курс абедзвюх краін на супрацоўніцтва і дружбу. У той жа час гэты дагавор — дакумент вялікай міжнароднай важнасці, які садзейнічае ўмацаванню міру ў Азіі і за яе межамі, міру, які патрэбен усім народам, у тым ліку народам азіяцкага кантынента.

### У ПАЎНОЧНАЙ ІРЛАНДЫІ

Выбухі бомб і перастрэлкі ні на мінуту не спыняліся ў Белфасце, Лондандэры, Ньюры і іншых гарадах Ольстэра. Спалена больш чым сотня дамоў. Лондандэр пакрыўся барыкадамі. Аўтаматныя чэргі да глыбокай ночы не спыняліся ў каталіцкім раёне Белфаста, дзе ішоў сапраўдны бой паміж англійскімі салдатамі і ірландцамі.

Першы дзень дзеяння «Закона аб надзвычайных паўнамоцтвах» пацвердзіў апасенні англійскай і паўночнаірландскай грамадскасці, што гэта мера, накіраваная на падаўленне руху за грамадзянскія правы, прывядзе да новых ахвяр і яшчэ больш рэзкага абвастрэння становішча ў Ольстэры.

У адпаведнасці з законам аб надзвычайных паўнамоцтвах Ольстэра ўлады могуць трымаць арыштаваных у зняволенні без суда і следства практычна бестэрмінова.

У Ольстэр самалётамі адпраўлены новыя воінскія падмацаванні.

Выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра Англіі міністр унутраных спраў Р. Модлінг адмовіўся пайсці насустрач шматлікім патрабаванням і склікаць распушчаны на летнія канікулы парламент для разгляду становішча ў Ольстэры.

### ВЫСТУПЛЕННЕ А. САДАТА

На пасяджэнні ЦК Арабскага сацыялістычнага саюза, выступіў старшыня АСС, прэзідэнт Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі Анвар Садат.

У сваім выступленні Садат даў аналіз цяперашняму палітычнаму і ваеннаму становішчу ў краіне. Ён заявіў, што ААР па-ранейшаму прытрымліваецца выстаўленай ёю ў лютым гэтага года ініцыятывы, накіраванай на палітычнае ўрэгуляванне блізкаўсходняга канфлікту. У гэтай сувязі прэзідэнт пацвердзіў гатоўнасць ААР аднавіць міжнароднае суднаходства па Суэцкаму каналу. Адкрыццё канала, падкрэсліў ён, павінна быць першым этапам на шляху да ліквідацыі канфлікту пры поўным вывадзе ізраільскіх войск з усіх акупіраваных арабскіх тэрыторый.

Прэзідэнт ААР указаў, што 1971 год будзе рашаючым ва ўрэгуляванні блізкаўсходняга крызісу. (яч)

## БССР

### УРАДЖАЙ

Калгаснікі Гродзенскай вобласці дабіліся сёлета высокага ўраджаю: 25—30 і больш цэнтнераў збожжа з гектара.

### СЦЯГ ДЛЯ ЧЫГУНАЧНІКАЎ

Па выніках усесаюзнага спаборніцтва Беларуская чыгунка заваявала першае месца. Ёй прысуджаны пераходны Чырвоны сцяг Савета Міністраў СССР.

### ГОСЦЬ З В'ЕТНАМА

У Беларусі тыдзень гасціла дэлегацыя партыйных работнікаў Партыі працоўных В'етнама на чале з кандыдатам у члены ЦК ППВ, першым намеснікам загадчыка аддзела арганізацыйна-партыйнай работы — Нгуен Кхаем, якая знаходзілася ў Савецкім Саюзе па запрашэнню ЦК КПСС.

В'етнамскія таварышы вывучалі вопыт рабочых ЦК КПБ, гаркомаў і райкомаў, пярвічных партыйных арганізацый, пабывалі на прадпрыемствах, сустракаліся з сельскімі працаўнікамі, работнікамі дзяржаўных устаноў.

У Мінску пабывала таксама дэлегацыя в'етнамскіх кінематаграфістаў, якая прымала ўдзел у VII Маскоўскім міжнародным кінафестывалю. Маладая кінематаграфія гэтай краіны паказвае самаадданасць байцоў-патрыётаў і кліча на барацьбу да пераможнага канца.

### БЕЛАРУСКАЯ НАФТА

Агенцтва «Белта» паведамляе з Гомеля, што 11 жніўня г.г. атрымана першая нафта са свідравіны № 6 з глыбіні 2960 метраў на Вышаміраўскай плошчы. Цяпер на 4-х месцанараджэннях дзейнічаюць 86 свідравін. Даюць яны ў суткі звыш 15 тысяч тон нафты.

### МУЗЕЙ БАЯВОЙ СЛАВЫ

На адной з вуліц Кобрына стаіць сціплы драўляны дом. Ён далёка вядомы за межамі Брэстчыны. Тут размешчаны ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава. З яго багатымі экспанатамі, якія прысвечаны ваеннай гісторыі беларускага народа і гераічнаму жыццю вялікага рускага палкаводца, азнаёміліся ўжо больш за мільён савецкіх і замежных турыстаў. Музею сёлета споўнілася 25 гадоў.

### У СЭРЦЫ ПАЛЕССЯ

Гарадскі пасёлак Жыдкавічы знаходзіцца ў самым цэнтры беларускага Палесся. У мінулым глухое закінутае мястэчка ператварылася зараз у буйны населены пункт развітай прамысловасці. Толькі летась у Жыдкавічах узведзены 33 новыя жылыя дамы, камбінат бытавога абслугоўвання, нядаўна адкрыты дзве сярэднія школы, кінатэатр «Усход», некалькі магазінаў, 2 кафэ, стадыён.

### АДПАЧЫНАК

У сасновым бары непадалёку ад Дняпра адкрыўся прафілакторый Аршанскай фабрыкі бытавых паслуг. Тут папраўляюць сваё здароўе, адпачываюць па бясплатных пуцёўках рабочыя і служачыя фабрыкі.

### ТРАКТАР «БЕЛАРУСЬ»

Англія закупіла першыя пятнаццаць трактараў «Беларусь». Прайшлі яны паспяхова экзамен на палях англійскіх фермераў. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТЫ Э. ГЕРКА

10 жніўня г.г. I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Кашалінскае ваяводства. Правёў ён сустрэчы з калектывамі сельскагаспадарчага камбіната ў Гжмёнцай і Станцыі гадоўлі раслін у Лётыні, а таксама з прадстаўнікамі партыйных улад. I сакратар ЦК ПАРП цікавіўся сацыяльнымі ўмовамі жыцця рабочых сельскай гаспадаркі.

12 жніўня г.г. I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Грудзёндскі павет у Быдгашчскім ваяводстве. Цікавіўся ён поспехамі ў працы і перспектывамі далейшага развіцця кааператыва ў Лінове і ПГР у Сальне.

### ЦЭНТРАЛЬНЫЯ ДАЖЫНКІ

У гэтым годзе Цэнтральныя дажынкі адбудуцца 5 верасня ў Аполі. У дажынкавай урачыстасці возьме ўдзел каля 15 тысяч асоб. У мастацкай частцы выступяць мастацкія калектывы, народныя капелы, харавыя калектывы, 80-асабовы аркестр шахцёраў і плавільшчыкаў, аркестр Польскага войска і г.д.

Апрача таго, адбудуцца такія мерапрыемствы, як кірмашы і выстаўкі народнага мастацтва, выступленні рэгіянальных мастацкіх калектываў, паказы новых сельскагаспадарчых машын і найлепшай хатняй жывёлы. На заканчэнне дажынак адбудзецца народнае гулянне. Напярэдадні Цэнтральных дажынак адбудзецца ў Лодзі ўрачыстае ўручэнне найбольш заслужаным сялянам і другім прадстаўнікам вёскі дзяржаўных адзнак і ўзнагарод.

### НОВАЯ ГУТА ШКЛА

У гэтым годзе пачнецца будова новай вялікай гуты шкла ў Ярослаўлі. У гуце будзе працаваць каля 1000 асоб, у тым ліку палавіна жанчын. Гута будзе выпускаць перш за ўсё бутэлькі і слоікі, якіх зараз адчуваецца недахоп. Яе прадукцыйная здольнасць прадбачваецца на паўмільярда штук шкляной упакоўкі.

### РАБОТА ДЛЯ 1000 АСОБ

У Скшынску неўзабаве будзе аддадзена ў карыстанне фабрыка замарожвання агародніны і фруктаў. У сезоне атрымае тут працу больш тысячы асоб, пераважна жанчын.

### 44 ТЫСЯЧЫ ДОЛАРАЎ

На рахунку грамадскага камітэта адбудовы Каралеўскага замка ў Варшаве сабралася дагэтуль 83 мільёны злотых і 44 тысячы долараў, якія ахвяравала Палёнія.

Дары плывуць з усяго свету.

### ПАЖАРЫ

У гэтым годзе згарэла на 450 мільёнаў злотых рознай маёмасці. Бываюць дні, калі выбухае па 150 пажараў, гэта значыць, што на працягу адной гадзіны бывае па 6 пажараў. Дагэтуль згарэла 12 тысяч будынкаў на вёсцы, загінула 140 асоб і 350 асоб папарылася.

### МУЗЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

У Душніках-Здрою 15 жніўня пачаўся Міжнародны шапэнаўскі фестываль, у якім выступяць маладыя таленавітыя піяністы — лаўрэаты апошняга шапэнаўскага фестывалю ў Варшаве і іншых еўрапейскіх конкурсаў. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### КАНЧАЕЦЦА ЖНІВО

Добра праходзіць сёлета жніво ў дзяржаўных сельскіх гаспадарках. У ПГР-ах у паўднёвай частцы ваяводства жніво ўжо амаль закончана, а ў паўночных паветах, дзе яно пачалося пазней, будзе закончана да палавіны трэцяй дэкады жніўня.

Там, дзе жніво ўжо закончана, сяляне масава прыступілі да падарывак і асенняга сеяння. Паплыло таксама збожжа на пункты скупкі ГС.

### ПАЖАРЫ

Вялікую шкоду ў сёлетняе сухое лета прыносяць пажары. У мінулым тыдні вялікі пажар здарыўся ў вёсцы Сулева — Каўнаты Граеўскага павета. Згарэла там 42 будынкі. У многіх месцах нашага ваяводства гараць лясы. Нядаўна ў Сакольскім павеце ля вёскі Янова згарэла 25 гектараў лесу, у Гайнаўскім павеце ля Трасцянкі — 10 га лесу. У многіх мясцовасцях нашага ваяводства гараць лугі і тарфянікі. На тарфяніках пажар асабліва небяспечны, бо можа непрыкметна перакінуцца на наступныя лугі, лясы, палі і нават будынкі. Пажарнікі нашага ваяводства знаходзяцца ўвесь час у поўнай гатоўнасці.

### «РАЗЬБА — 71»

Закончыўся мастацкі пленер рэзчыкаў па дрэве ў Гайнаўцы. Гэта быў ужо пяты чарговы гайнаўскі пленер. Працавалі на пленеры мастакі з усёй Польшчы. Пасля ўрачыстага заканчэння мастацкага пленеру адкрылася ў Гайнаўскім доме настаўніка выстаўка іх прац. Сярод мастакоў былі таксама шэсць мастакоў-дэкаратараў. Яны праектавалі новыя тыпы мэблі. Многія з гэтых мэбляў спадабаліся наведвальнікам выстаўкі, і, магчыма, гэтыя прататыпы будуць выкарыстаны ў далейшай прадукцыі гайнаўскай мэблевай фабрыкі.

### ЗЛЁТ ТУРЫСТАЎ

Галоўнае праўленне турыстычна-краязнаўчага таварыства падрыхтоўвае цэнтральны злёт турыстычнага актыву. Злёт адбудзецца 20—21 жніўня над возерам Вігры, ля вёскі Брызгель. Актывісты сустрэнуцца, каб абмеркаваць існуючыя формы іх дзейнасці, а таксама ім будуць прадстаўлены новыя прапановы ў арганізацыі турыстыкі. Актывісты прыдуць на злёт проста з турыстычных трас, якія яны пройдуць пешшу, або праедуць веласіпедамі, матацыкламі, ці лодкамі.

### АДПАЧЫНАК МОЛАДЗІ

Саюз сялянскай моладзі ў жніўні штогод арганізуе навучальна-адпачынкавыя лагеры для сваіх членаў. Сёлета над возерам Студзенічным у Аўгустове адпачывае група актывістаў ЗМВ з сярэдніх школ нашага ваяводства і з Вышэйшай настаўніцкай школы з Беластока.

### УЗНАГАРОДА ДЛЯ БЕЛЬСКА

Падсумавана ўжо спаборніцтва на званне найлепшага рабочага гатэля будаўнічых у краіне. Сярод узнагароджаных быў гатэль Бельскага будаўнічага прадпрыемства. Ён заняў першае месца ў ваяводстве, другое — гатэль Беластоцкага гарадскога прадпрыемства, трэцяе — гатэль Элцкага прадпрыемства. (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 22.VIII.**

8.35 Program. 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa". 10.00 „Pirat" — film fab. USA. 11.30 „Drewniani święci". 12.00 Przerwa. 13.40 Program. 13.45 Dziennik. 14.00 „Przemiany". 14.30 „Piąta rano" — film. 15.25 „W starym kinie". 16.25 Sprawozdanie z finałów wioślarskich Mistrzostw Europy mężczyzn. 17.20 PKF. 17.30 „Goście z Gruzji". 18.10 Studio 63: A. Mickiewicz — „Pan Tadeusz" księga X. 18.50 „Refleksje". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Muzyka i lato" — program estradowy. 21.05 Magazyn sportowy. 21.35 „Wiosenne wody" — film fabularny czechosł.

**Poniedziałek 23.VIII.**

16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Opowieści o zwierzętach". 17.25 Echo stadionu. 18.05 „Folklor wsi rumuńskiej" — film. 18.20 Eureka. 18.50 „Strażnicy nieba" — reportaż o Wojskach Obrony Powietrznej Kraju. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Ambasadora Socjalistycznej Republiki Rumunii. 20.10 VIII Telewizyjny Festiwal Teatrów Dramatycznych — „Noce i dnie". 21.25 „Jeszcze nie raz" — program rozrywkowy. 22.30 Dziennik.

**Wtorek 24.VIII.**

10.00 „San Demetrio" — film fab. ang. 11.35 Przerwa. 16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.30 „Pierwsze mapy" — film rum. 18.35 „W co wyposażyć mieszkanie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „San Demetrio" — film ang. 21.35 „Spotkanie z Lidią Wysocką". 22.15 „Rola środowiska krakowskiego w życiu kulturalnym kraju". 22.45 Dziennik.

**Środa 25.VIII.**

10.00 „Randall i duch Hopkirka" — seryjny film ang. 10.50 Przerwa. 16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 Teleferie. 18.30 Telewizyjny Kurier Warszawski. 18.45 Wszechnica TV: z c. „Sztuka liczenia" — „Jadą goście, jadą..." 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Randall i duch Hopkirka" — seryjny film ang. 20.55 Światowid. 21.25 „Wratislavia Cantans" — transmisja koncertu symfonicznego z VI Wrocławskiego Festiwalu Oratoryjno-kantatowego. 22.15 PKF. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 26.VIII.**

16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 „Tajemnica archiwum" — film fab. NRD. 18.10 Telewizyjny Kurier Lubelski. 18.25 „Szczerze o zdrowiu". 18.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.15 XI Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie. W przerwie ok. 21.30 Dziennik.

**Piątek 27.VIII.**

10.00 „Najpiękniejszy wiek" — film czechosłowacki. 11.15 Przerwa. 16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.50 Telewizyjny Kurier Mazowiecki. 18.05 Wszechnica TV: z c. „Nasi uczeni". 18.35 Kraj. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Dokąd prowadzi Tokaido" — reportaż z Japonii. 20.15 XI Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie. W przerwie ok. 21.30 Dziennik.

**Sobota 27.VIII.**

10.00 „Upalne południe" — film bułg. 11.20 Przerwa. 14.15 Program dnia. 14.20 Program tygodnia. 14.40 Telewizyjny Kurs Rolniczy. 15.15 „Przypominamy, radzimy". 15.30 Sprawozdanie z trójmeczu lekkoatletycznego Związek Radziecki — Polska — NRD. 17.00 Dziennik. 17.10 Program filmowy. 18.05 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.35 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 XI Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie. W przerwie ok. 21.30 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 20 sierpnia**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla dzieci. 8.40 Jak szukaliśmy Ciszkę. Film dla dzieci. 9.40 Koncert piosenki. 10.25 Nowiny. 15.00 Program. 15.05 Nowiny. 15.15 „Echo" — dla dzieci. 15.55 BSRR na arenie międzynarodowej. 16.15 Ekran dla dzieci. 16.30 Panorama nowin. 16.45 Zboże do spichrzów. 17.00 Telewizyjny teatr miniatur. 17.30 Mówią uczestnicy narady republikańskiej. 18.00 Karnawał zwierząt. — Muzyczny film. 18.20 „Czas". Program informacyjny. 18.50 „Pamięć sercu". 19.30 Ballada o Beryngu i jego kolegach — film. 21.15 Nowiny. 21.25 Hokej na lodzie.

**Sobota, 21 sierpnia**

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.30 Nowiny. 7.40 Koncert muzyczny. 8.20 Dla uczniów. 9.00 Koncert zespołów amatorskich. 10.00 „W imię życia". 10.30 Dla dzieci. Spektakl telewizyjny. 11.00 „Obiektyw". Program dla fotoamatorów. 11.30 Z historii filmu radzieckiego. 13.05 „Zdrowie". Program naukowopopularny. 13.15 „Rosyjski kalejdoskop" — film. 14.05 „Trybuna pisarza". 14.20 W świecie zwierząt. 15.30 Międzynarodowy program. 15.50 Nasi współcześni. 16.00 Nowiny. 16.05 Przodujące kołchozy i sowchozy. 16.35 Szkatułka muzyczna. 17.00 „Pies na sianie". Spektakl telewizyjny. 19.15 „Czas". Program informacyjny. 19.15 „Biała ziemia" — film. 20.50 Sport. 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 22 sierpnia**

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.15 Nowiny. 7.30 Dla dzieci. 8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Warcaby. 9.00 „Gra Roman Nodel" — skrzypce. 9.30 Dla dzieci. 10.30 Nowiny. 10.40 Dla dzieci. 11.00 Sport. 12.00 Program dla wojska. 12.30 „Moneta" — film. 14.00 „Koniec dialogu" — film. 14.50 Spotkania muzyczne. 15.30 Hokej. 16.00 Nowiny. 16.08 Koncert chóru. 16.45 Klub kinopodróżników. 17.35 „Irakli Andronników opowiada". Koncert. 19.00 „Czas". Program informacyjny. 19.30 „Biała ziemia" — film II. 20.35 „Śpiewa Hiuli Czachieli". 21.05 Sport. 21.45 Nowiny.

# ФЭСТЫН У ТАЛЬКОЎШЧЫНЕ

На скраю вёскі Талькоўшчына, на прасторным пляцу-паляне, за якой расцягваецца сасновы лес, 4 ліпеня адбыўся фэстын Беларускага таварыства, прысвечаны 15-ай гадавіне існавання арганізацыі. Фэстын быў спалучаны і са святкаваннем 49-ай гадавіны спулдзельчасці ў Польшчы. У вельмі прыгожым месцы, ля леснічоўкі, пад дрэвамі была зроблена з дошак пляцоўка з лавачкамі, а з трактарных прычэпаў — трыбуна, над якою на чырвоным палотнішчы віднелі на беларускай мове два надпісы: «XV год БГКТ» і «Вітаем удзельнікаў фэстыну» І трыбуна і пляцоўка з трох бакоў абсаджаны былі бярозкамі, за якімі шалясцелі чырвоныя, белачырвоныя і зялёныя сцягі. Нягледзячы на тое, што быў дажджлівы дзень, сабралася сюды больш тысячы чалавек. З адлеглых вёсак прыехалі людзі матацыкламі і нават трактарамі з перапоўненымі прычэпамі.

Урачыстасць пачалася пасля поўдня, пасля чарговай дажджлівай пералётнай хмары. Адкрываючы ўрачыстасць намеснік старшыні сакольскага аддзела БГКТ Аляксандр Рафаловіч сардэчна прывітаў прадстаўнікоў павятовых улад у Саколцы — Сцяпана Лукашука, Веслава Валангевіча і Вацлава Філіповіча, прадстаўнікоў улад грамады Шудзялава — Уладзіміра Лісоўскага, Аляксандра Піруту і Віталіса Будровіча, прадстаўнікоў мясцовых улад і ўсіх прыбыўшых на гэтую ўрачыстасць. З дакладам аб дасягненнях БГКТ і яго ролі ў асяроддзі выступіў старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі. У дакладзе між іншым гаварылася аб рэвалюцыйных традыцыях супольнай барацьбы палякаў і беларусаў супроць несправядлівасці і прыгнёту ў мінулым аб рэвалюцыйных традыцыях Сакольшчыны, аб дружным брацкім сужыцці беларускага і польскага насельніцтва, аб тым, што БГКТ выдабывае ўсе тыя элементы, якія яднаюць усіх жыхароў Сакольшчыны і пабуджаюць да яшчэ актыўнейшай працы пры будове лепшага заўтра нашай краіны. Ад імя павятовых улад выступіў з прамоваю Аляксандр Рафаловіч, які з'яўляецца адначасова членам прэзідыума павятовай рады нарадовай у Саколцы.

Не прайшло і некалькіх мінут пасля заканчэння афіцыйнай часткі, як ізноў трэба было хавацца ад ліўнівага дажджу. А калі паказалася сонейка, на сцэну-трыбуну ўвайшоў гарадоцкі жаночы калектыў, які цікавай амаль двухгадзіннай праграмай весяліў усіх прысутных. Харысты не сышлі са сцэны нават калі зноў пайшоў дождж. І ніхто з прысутных не ўцякаў ад дажджу. Усе з захапленнем слухалі гарадоцкіх самадзейнікаў.

Не малой атракцыяй былі і паказы пажарнай каманды з Саколкі, якая прыбыла сюды са сваім павятовым начальнікам Станіславам Шодам.

Крынкаўскі ГС пад кіраўніцтвам Казіміра Баха забяспечыў прысутных у напіткі, харчавыя прадукты і ўсякія ласункі.

Варта ўспомніць таксама і аб падсумоўваючым спатканні, у якім узялі ўдзел арганізатары фэстына і госці. На ім многа цёплых слоў сказана было ў адрас БГКТ і аб яго дзейнасці на Сакольшчыне. Выступалі: старшыня сакольскага аддзела БГКТ Сцяпан Лукашук, надляснічы з Пачапка Яўген Грэсік, прэзас ЗСЛь у Трысцяным Тадэўш Булатэвіч, камендант пастарунку міліцыі ў Шудзялаве Аляксандр Пірута, старшыня сельгасгуртка ў Паўднёвым Востраве Міхась Жамойда, кіраўнік спулдзельчага банка ў Шудзялаве — Віталіс Будровіч і іншыя. Усе сцвярджала, што на дзейнасць БГКТ існуе вялікае грамадскае запатрабаванне.

Фэстын акончуўся народнай забавай.

Быў ён удany, добра падрыхтаваны, споўніў сваё выхаваўчае заданне. Многім мясцовым актывістам давялося шмат папрацаваць, асабліва Зіне Лісоўскай, Вітальду Ляўковічу, Тадэўшу Булатэвічу, Міхалу Хведасю, Віктару Белабокаму, Дануце Ляўкоўскай, Ірэне Аношка і многім іншым. Усім ім належыцца шчырая падзяка.

Арганізатарам фэстыну быў сакольскі аддзел БГКТ, а суарганізатарамі — ГРН Шудзялава, банк спулдзельчы ў Шудзялаве, ГС у Крынках, сельгасгуртoк у Паўднёвым Востраве, мясцовыя актывісты Талькоўшчыны і Трысцянога.

*М. Сваяк*
*Фота Цаф — Савіцкі*




*Прэзідыум фэстыну. Адкрывае ўрачыстасць намеснік старшыні сакольскага аддзела БГКТ Аляксандр Рафаловіч.*



*На сцэне гарадоцкі харавы калектыў: Ніна Мушынская выступае з жартоўнымі маналогамі.*

# КНЯЗЬ У СПАДНІЦЫ



У адным з папярэдніх нумараў «Нівы» мы прапанавалі чытачам кнігу Марцэля Космана «Уладзіслаў Ягайла», сёння ж нам хочацца звярнуць увагу на другую працу гэтага аўтара — «Вялікі князь Вітаўт»[1]). Яна з'яўляецца своеасаблівым дапаўненнем і расшырэннем першай ужо хаця б і таму, што займаецца той самай гістарычнай эпохай — канцом XIV і першай паловай XV стагоддзяў і тымі ж самымі постацямі — Вітаўтам і Ягайлам.

Асоба князя Вітаўта з'яўляецца ўдзячнай тэмай і для гісторыка і для літаратара. Жыў і дзейнічаў ён у Вялікім княстве Літоўскім у вельмі бурлівы час (нарадзіўся каля 1350 года — памёр у 1430 годзе), а яго рысы характару і няспынная ды бесцырымонная барацьба за вялікакняжацкі пасад кідалі ў незвычайныя перыпетыі. Вітаўт, выхаваны з маленства ў язычаскай веры, тры разы прымае хрысціянства (пачаткова ў крыжаносцаў з язычаства пераходзіць у каталіцтва, потым прымае праваслаўе і, урэшце, у Кракаве зноў хрысціцца на католіка), але ў перакананнях усё жыццё застаецца язычнікам, сумняваючыся ў праўдзівасці ўваскрасення Хрыста — аснове хрысціянскай веры. Часценька трапляе пад замок да сваіх ворагаў, але заўсёды выходзіць цэлы і непашкоджаны на волю. Пры гэтым, каб вызваліцца, не ганьбуе здрадай уласнага краю, жыццём заложнікаў і нават пераапранаецца ў жаночае адзенне.

Такая постаць стварае пісьменніку з аднаго боку шырокія магчымасці выяўлення сваіх творчых задаткаў, але з другога — ставіць яго ў складанае становішча, вымагаючы гістарычнай праўды ў творы.

На жаль, М. Косман не выкарыстаў творчых магчымасцей і не пазбег значных адступленняў ад гістарычных фактаў. Кніга атрымалася бледнаватая, пазбаўленая каларыту эпохі, а шматлікія адступленні ад гістарычнай праўды яшчэ больш зніжаюць яе вартасць. Усё гэта спісвала б яе на звычайнае ў такіх выпадках забыццё або не звяртанне ўвагі на чарговы выдавецкі промах «Светавіда», калі б не тое, што аўтар кнігі імкнецца ў ёй уваскрасіць і распаўсюдзіць такія погляды на постаць князя Вітаўта і гісторыю Вялікага княства Літоўскага, якія ў наш час сталі анахранізмам і сучасныя вучоныя-гісторыкі катэгарычна адкінулі іх як тэндэнцыйныя і нязгодныя з гістарычнай праўдай. У кнізе іх многа, але мы затрымаемся на дзвюх, якія найбольш рэзка кідаюцца ў вочы.

Вельмі павярхоўна прадставіўшы ход Грунвальдскай бітвы, аўтар такім чынам хацеў прамаўчаць ролю, якую ў ёй адыгралі «русіны», г. зн. беларусы, украінцы і рускія, якія складалі аснову арміі князя Вітаўта. Як сцвярджае «Гісторыя БССР», у арміі князя літоўскага былі: брэсцкае, гродзенскае, валкавыскае, лідскае, пінскае, полацкае, віцебскае апалчэнні, тры рускія палкі са Смаленскай зямлі і некалькі ўкраінскіх палкоў». І гэтыя войскі не былі ўжо такімі «мала ўстойлівымі», як піша М. Косман, а наадварот, змагаліся яны гераічна. Вось што аб іх сказана ў «Гісторыі БССР»: «...Войскі Вітаўта і Ягайлы пачалі адступаць. Толькі смаленскія палкі, якімі камандаваў мсціслаўскі князь Юры, стрымалі націск ворага. Польскі храніст паведамляе: «У гэтай бітве толькі адны рускія воі са Смаленскай зямлі, пастроеныя трыма асобнымі палкамі, стойка біліся з ворагам і не прынялі ўдзелу ў пабегу. Тым яны заслужылі на вялікую славу». Дзякуючы стойкасці рускіх палкоў Вітаўт і Ягайла прывялі свае войскі ў парадак і перайшлі ў пасляховае наступленне»[2]).

У канцы кнігі аўтар слушна заўважае, што вялікай памылкай Вітаўта была яго палітыка ў адносінах да «русінаў», г. зн. імкненне да захопу «рускіх» зямель і дыскрымінацыя «рускіх» баяраў. Але тых, хто выступаў супроць гэтай дыскрымінацыі, аўтар называе пагардлівым словам «малькантэнты». На самай жа справе гэтае «малькантэнцтва» ўжо пры жыцці Вітаўта мела характар вызваленчай барацьбы, накіраванай супроць засілля чужаземцаў на «рускіх» землях. І так, у 1401 годзе насельніцтва Смаленскай зямлі падняло паўстанне, перабіла літоўскіх княжацкіх наменікаў і паклікала на пасад ранейшага смаленскага князя Юрыя. Толькі ў 1404 годзе ўдалося Вітаўту зноў запанаваць над Смаленскай зямлёй. Пасля смерці ж яго іменна па прычыне гэтай жа вызваленчай барацьбы «русінаў» Вялікае княства Літоўскае на працягу звыш 10 год апынулася ў агні ўнутранай вайны, якая (ужо ў іншых формах) працягвалася цэлыя стагоддзі, аж да канца існавання шляхецкай Рэчы Паспалітай.

І ўсё ж такі працу М. Космана прачытаць варта, бо ў ёй апрача недакладнасцей і памылак ёсць шмат даставерных гістарычных фактаў ды напісана яна даступна кожнаму чытачу. (мг)

---

[1]) Marceli Kosman, Wielki książę Witold, Варшава, 1967, стар. 280, цана 10 зл.

[2]) История Белорусской ССР, т. I, Мінск, 1961, стар 69—70.

# Новае ў Чыжоўскай грамадзе

Зараз у Чыжоўскай грамадзе сяляне прымяняюць у два разы больш мінеральных угнаенняў, чымсьці прымянялі іх два—тры гады таму назад.

У сярэднім высяваюць па 80 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 гектар зямельных угоддзяў. Многія сяляне перавыконваюць свае планы па куплі мінеральных угнаенняў. Да такіх сялян належаць У. Давыдзюк, А. Гаўрылюк, В. Карпюк, А. Хадакоўскі, П. Ягадніцкі, П. Тыхонюк, В. Максымюк, П. Супэлка, М. Якімюк, Я. Галёнка і іншыя.

Сяляне Чыжоўскай грамады кантрактуюць 612 гектараў збожжавых культур. Найлепш выконваюць свае планы па кантрактацыі збожжавых культур сяляне з Курашава, Падрэчан і Ракавічаў.

З году ў год вырошчваюць яны таксама больш цукровых буракоў. Цяпер займаюць яны плошчу ў 132 гектары. У сельскагаспадарчых гуртках на працягу трох апошніх гадоў значна павялічылася колькасць трактараў і прычэпных камплектаў сельскагаспадарчых машын. Калі ў 1967 годзе ў грамадзе было толькі 16 трактараў, дык зараз ёсць іх 44. Жыхары Чыжоў і чыжоўскай акругі пабудавалі ў сябе грамадскім чынам пункт скупкі збожжа. У далейшым намераны яны пабудаваць яшчэ пункт скупкі жывёлы. У Чыжах ідзе зараз пракладка новых ходнікаў і заканчваецца рамонт святліцы. Жыхары Чыжоўскай грамады будуюць грамадскім чынам дарогі, школы і г.д.

Пабудавалі яны 5-кіламетровы адрэзак дарогі Лянева—Курашава, Чыжы—Ракавічы, Чыжы—Асоўка, Курашава—Вулька, Збуч — чыгуначная станцыя Старое Беразова і г.д. Грамадскім чынам пабудавалі школу ў Курашаве (кошт яе 505 тысяч злотых) і пачалі будаваць школу ў Збучы. У Чыжах пабудавалі супрацьпажарны басейн (кошт 380 тысяч злотых). Агулам выканана праца грамадскім чынам на суму 1,8 мільёнаў злотых. (яц)

Пачатак на стар. 1

# Неяк будзе

якіх было больш на 7 працэнтаў, і ад іх далей гадуюць парасят. Толькі ў некаторых паветах, сярод якіх, на жаль, аказаліся Бельск і Гайнаўка, не зазначыўся прырост колькасці свіней у сялянскіх хлявах. Менш рохкаючага жывога тавару ў мінулым паўгоддзі гадавалі таксама жыхары горада Беластока.

Вядома, што надвор'е папярэдніх гадоў не спрыяла хлебаробам. Сёлеташняя ліпеньская і жнівеньская спёка таксама не паляпшае гэтага становішча. Пад пагрозай знішчэння ад засухі астаюцца асабліва плантацыі бульбы і цукровых буракоў. А гэтыя ж сельскагаспадарчыя культуры маюць непасрэдныя адносіны да нарыхтоўкі запасаў корму. Сяляне на Беласточчыне быццам прадчулі пагрозу для буракоў і загадзя меншую плошчу поля прызначылі пад іх вырошчванне, павялічваючы адначасова (аж на 27 працэнтаў) кантрактацыю рапсу. Ад яго корму жывёле не прыбудзе, затое папоўняцца кішэні сялян новымі пяцісоткамі.

Таму добра, што паспяхова прайшлі сенакосы. На зменяраваных сенажацях трава была ў агблю. Першыя паказальнікі сёлеташняга ўраджаю збожжа таксама абнадзейваюць. Калі да гэтага дадаць усе ўведзеныя ў гэтым годзе грамадска-праўныя перамены ў сістэме існавання сельскай гаспадаркі і ўладання зямлёю, дык можам сказаць, як гаворыць кожны вясковы дзядзька: *неяк будзе, усё ідзе да лепшага.*

І сапраўды.

Жыхары вёсак у Беластоцкім ваяводстве толькі на працягу шасці месяцаў гэтага года выдалі на розныя пакупкі ў ГС-аўскіх крамах амаль 2,5 мільярда злотых. Значную частку гэтай сумы прызначылі яны на тэлевізары, продаж якіх павялічылася на звыш 25 працэнтаў, на радыёпрыёмнікі, якіх закуплена больш на звыш 12 працэнтаў, і пральныя машыны, якіх продана ў мінулым паўгоддзі аж на 33 працэнты больш, чымсьці ў такім жа перыядзе папярэдняга года. Не шкадавалі людзі грошай на гарэлку і віно, продаж якіх таксама праходзіла паскоранымі тэмпамі. Не пуставалі розныя сталоўкі і рэстараны. Іх гандлёвыя абароты павялічыліся на звыш 11 працэнтаў.

Толькі не хапіла неяк ахвотных, каб захапляцца фільмамі, асабліва тымі, што дэманстраваліся ў вясковых і маламестачковых кіно. Такім чынам аж 12 кіно ў ваяводстве прымушана было спыніць сваю дзейнасць. Людзі перасядаюцца да тэлевізараў.

Нягледзячы на ўсё гэтае, застаецца яшчэ грамадзянам крыху грошай на так званую чорную гадзіну. *Гэтае «крыху» на кніжках СОП ператвараецца ў суму 779 мільёнаў злотых, а на кніжках ПКО — у 2 мільярды 589 мільёнаў злотых.* І ашчаднасці гэтыя пастаянна растуць. *Дык неяк там будзе.*

*М. Нурэцкі*

# На пункце скупкі

Сонечны ліпеньскі дзень. Наша машына накіроўваецца на пункт скупкі жывёлы і свіней у Боцьках.

Ідзем на агароджаны сеткай пляц. Тут стаяць прывязаныя «красулі». Жывёла стаіць на спецыяльна ўложанай бетоннай падлозе. Пачынаецца ананімная красіфікацыя. Ля класіфікатара два памочнікі, якія кальчыкуюць і тушам абазначаюць гатунак (клас).

Класіфікацыя жывёлы працягваецца, а я іду ў кантору да кіраўніка пункту скупкі Паўліны Жукоўскай. Яна высвятляе мне, што віцэ-прэзаса ГС, які павінен разглядаць спрэчкі паміж гаспадаром і класіфікатарам няма, знаходзіцца ён зараз у водпуску, дадаючы, што яна ўпаўнаважана гэта рабіць.

У дзень нашага візіту на пункце скупкі прынята 37 штук свіней і 3-е цялят. Скарг адносна скупкі свіней не было ніякіх. Найбольш, 20 штук свіней скласіфікавана да другога гатунку, 15 штук — да першага і толькі 2 штукі да трэцяга гатунку.

— Аднак бывае і так, — гаворыць П. Жукоўская, — што прыймаем на многа больш жывёлы, чымсьці павінны прыняць. Напрыклад, на пачатку ліпеня гаспадары паставілі 134 свінні. Зразумела, усё гэта трэба прыняць. Гаспадара ж не адашлеш дахаты! Міма такога навалу, пункт скупкі закончыў работу недзе каля першай гадзіны пасля абеда. У хуткай абслузе гаспадароў вельмі дапамагае нядаўна зробленая рампа. Калісь трэба было свінню здымаць з воза, мучыць яе, здаралася, што свінні ламалі ногі. Зараз свіння ідзе да вагі сама проста з воза. Нібы малая справа, але на колькі аблягчае працу чалавека і прыспяшае скупку.



*Проста з воза на вагу.*

Вяртаемся яшчэ раз на пляц з жывёлаю. Тут толькі што закончылася класіфікацыя. Гаспадарам можна падыйсці да сваёй жывёлы, каб прыглянуцца, які гатунак даў класіфікатар. Пытаюся класіфікатара адносна якасці дабытку. Гаворыць, што найлепшая. Гаспадары не мелі ніякіх прэтэнзій да класіфікатара.

Каб усюды так адбывалася скупка, было б усё добра. Аднак і ў Боцьках заўсёды так не будзе. Прыпамінаю тут словы, якія выказаў мой знаёмы, што калі я быў з апаратам і з самаходам на пункце скупкі, дык напэўна ўсё мусела быць цудоўна.

Я так крайне не ацэньваю людзей. Пункт скупкі ў Боцьках патрабуе новых інвестыцый. Над месцам стаянкі прывязаных кароў неабходна зрабіць дашак. Сонца ж не заўсёды бывае, калі адбываецца скупка. А і чакаючым людзям трэба зрабіць нейкую пачакальню, у якой можна пасядзець, перакусіць, выпіць аранжаду ці піва. Добра было б падумаць, каб гаспадар меў месца, дзе мог бы паставіць і прывязаць каня з фурманкай. Гэтыя малыя пільныя патрэбы павінна хутка зрабіць праўленне ГС у Боцьках. Усё ж тут скупка адбываецца тры разы ў тыдзень.

*Тэкст і фота А. Карпюк*



*Момант класіфікацыі.*

Пачатак на стар. 1

# Партыйныя сходы

нага рашэння, пастановы, а таварышы не ведаюць аб лёсе ўнесеных прапаноў, бо на іх часта наогул не рэагуюць. Характэрна, што на справаздачна-выбарчых сходах неактыўных арганізацый удзел рабочых і сялян у дыскусіі раптоўна павялічваецца нават да 70%. Вынікае гэта з пераканання, што новыя ўлады аднясуцца да прапаноў клапатліва і са зразуменнем. Апрача таго, на такіх сходах амаль заўсёды прысутнічае нехта з вышэйшай установы, таму людзі вераць, што гэта можа даць нейкія вынікі.

Абмяркоўваючы ліст Экзекутывы ВК партыі ў справе далейшага развіцця і ўмацавання партарганізацыі ў Беластоцкім ваяводстве шмат гаварылася аб неабходнасці прыдзяліць усім членам заданні, якія адпавядалі б іх магчымасцям і зацікаўленням, а таксама аб патрэбе правяраць выкананне заданняў. Многія арганізацыі зрабілі з гэтага практычныя вывады і правялі актуалізацыю заданняў.

Аднак апошні праведзены кантроль у арганізацыях розных асяроддзяў паказаў, што ўсё яшчэ не ўсюды вядзецца запіс паверaных індывідуальных і групавых заданняў. Нават у арганізацыях, дзе фармальна ўсё ў парадку, не кантралюецца выкананне партыйных заданняў. У некаторых арганізацыях праяўляецца нават незразумелае супраціўленне да публічнай ацэны паставы члена партыі па яго грамадска-палітычнай працы. А вядома, што без гэтага сход не можа выконваць сваёй выхаваўчай ролі.

*К. Ляшчынскі*

# § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ:

У якіх выпадках можна адлічыць ад зарплаты тое, што працаўнік вінен прадпрыемству?

АДКАЗ:

Закон забараняе работадаўцы адлічаць ад зарплаты свайго працаўніка тое, што працаўнік вінен свайму работадаўцы. Ён можа гэта зрабіць толькі на аснове судовага рашэння, г. зн. ён павінен падаць працаўніка ў суд і толькі тады, калі справу выйграе, на аснове рашэння суда можа спагнаць свой доўг з зарплаты. Пры гэтым ён не мае права затрымаць усю зарплату, а можа толькі адлічыць не больш палавіны зарплаты.

Закон прадбачыць выключэнні ад гэтага прынцыпу:

калі працаўнік карыстаецца памяшканнем, атрыманым ад работадаўцы, можа быць адлічана ад зарплаты належная аплата за памяшканне, святло і абаграванне. Работадаўца адлічвае таксама ад зарплаты падаткі. Калі працаўнік атрымаў зарплату авансам, работадаўца можа адлічыць ад найбліжэй прыпадаючай зарплаты нават тады, калі б пасля адлічэння авансу з зарплаты нічога не засталося.

Нават, калі грошы працаўніку выплачаны памылкова, не можна іх адлічыць ад зарплаты. Гэта адносіцца таксама да доўгу, які вынік з недахопу тавараў, за якія быў адказны працаўнік.

## Беларуская літаратура — Аляксанар Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### ДРУКАРЫ І АСВЕТНІКІ — ЧАСТКА II

Васіль Цяпінскі. Таксама, як гэта было пры Скарыне, не ведаем дакладных гадоў нараджэння і смерці выдатнага дзеяча і асветніка Васіля Цяпінскага. Большасць даследчыкаў умяшчае жыццё Цяпінскага ў 1540—1603 гадах. Гэта значыць, што нарадзіўся ён прыблізна ў годзе смерці Скарыны, а жыў, як на свае часы, досыць доўга, бо 63 гады. Паходзіў Цяпінскі, як і Скарына, з Полаччыны, з мясцовасці Цяпіна. Праўдападобна ад гэтай мясцовасці паходзіць яго псеўданім Цяпінскі, бо сапраўднае яго прозвішча Амельяновіч.

З некаторых сцвярджэнняў Цяпінскага відаць, што не меў ён вышэйшай адукацыі і не адбываў, як Скарына, далёкіх замежных падарожжаў. Сам Цяпінскі аб гэтым гаворыць наступнае: «Я не італьянец, не немец, не доктар і ніякай пазіцыі сярод паноў не займаю... Русін я, сваёй Русі ўслугоўваючы».

Жыццё Цяпінскага было пазбаўлена стабілізацыі. Паходзіў з Полаччыны, але з дакументаў, апублікаваных Доўнар-Запольскім вынікае, што жыў ён і на Міншчыне, і на Случчыне, і на Віленшчыне. Даўжэйшы час прабываў таксама на Украіне. У маладосці заблытаўся ў судовыя валакіты, якія ў канцы канцоў скончыліся для яго ўдачай.

Цяпінскі быў пратэстантам. Лічыў, што існуючыя на Беларусі рэлігіі: праваслаўе і каталіцызм — вымагаюць рэформы. Цяпінскі належаў да секцыі сацыніян — тыповых прадстаўнікоў пратэстанцкага гуманізму. Сацыніяне прапагавалі цэлы рад ідэй, падставай якіх была вера ў высакароднасць чалавека. Сацыніяне выступалі супраць усіх форм насілля. Незалежна ад таго, ці гэтае насілле паходзіла ад дзяржаўнай, рэлігійнай ці вайсковай улады. Бадай што найпрыгажэйшай ідэяй, прапагаванай сацыніянамі, была ідэя пратэсту супраць вайны і зброі. Сацыніяне не хацелі быць жаўнерамі — стала быць не хацелі быць пераможцамі. Вялі яны змаганне, як было сказана, з праваслаўем і каталіцызмам, але вялі яго толькі словам. Зрэшты, аргументацыя і палемікі сацыніян ніколі не прыбіралі так крайніх катэгарычных, часта вульгарных форм, як гэта было ў прадстаўнікоў каталіцызму ці праваслаўя.

Моцна падкрэслівалі сацыніяне таксама ролю школы для шырокіх народных слаёў. У асвеце і кнізе на народнай мове бачылі магчымасць узняцця ўзроўню культуры і дабрабыту краіны.

Ці Цяпінскі поўнасцю раздзяляў погляды сацыніян? Не зусім. Належаў ён да ўмераных сацыніян. Сам быў шляхціцам, закаханым ва ўласны маёнтак. Ужо хаця б з гэтай прычыны не мог падтрымліваць тых сацыніян, якія выступалі супраць усіх форм уласнасці і якія былі прапагандыстамі тэзісу аб абсалютнай матэрыяльнай і маральнай вартасці людзей.

Пытанне ўласнасці і пытанне вайны не раз ставілася на з'ездах сацыніян, у якіх прымалі ўдзел сацыніяне з Беларусі, Украіны і Польшчы. На з'ездах гэтых даходзіла да вострых спрэчак паміж паасобнымі арыентацыямі ў асяроддзі сацыніян. І так Цяпінскі выступаў супраць польскіх сацыніян, якія прапагавалі тэзіс аб адрачэнні ад усякага матэрыяльнага багацця, ад вайны і ад зброі. Цяпінскі не згаджаўся з гэтым тэзісам, лічыў, што вайна можа мець справядлівы абаронны характар і што такая вайна павінна карыстацца падтрымкай з боку сацыніян.

Цяпінскі заставаўся ў блізкіх кантактах з вядомым тагачасным пратэстантам Сымонам Будным. Будны быў несумненна чалавекам шырокіх поглядаў, вялікіх ведаў і значнай адукацыі. Цяпінскі бачыў несумненна гэтую перавагу Буднага над сабой і стараўся ў многім наследваць яго. Некаторыя з даследчыкаў выказваюць думку, што сваю кнігу «Евангеліе» друкаваў Цяпінскі ў друкарні Буднага. Калі б нават гэта не адказвала праўдзе, то няма ніякіх сумненняў, што погляды Цяпінскага заставаліся ў акрэсленай залежнасці ад поглядаў Буднага.

Цяпінскі ўвайшоў у беларускую літаратуру як аўтар перакладу «Евангелія», і як аўтар вялікай прадмовы да гэтай кнігі. Праблемамі, звязанымі з гэтай кнігай зоймемся праз тыдзень.

АЛЯКСАНДР ЯРЫМОВІЧ — ГАСПАДАР З ОРЛІ

# ПЕРШ ЗА ЎСЁ СПОРТ

Сустрэліся мы на пярэдадні ліпеньскага свята. Калі я ехаў у Орлю, на палях у нязноснай ліпеньскай спякоце ішла заўзятая праца — сяляне касілі збожжа. Баяўся я, што не застану дома свайго героя. Мне аднак пашанцавала. Аляксандр Ярымовіч знаходзіўся на ўласным панадворку.

— Жыта я ўжо скасіў, — паясніў ён, калі я выявіў яму свае хваляванні, ды зараз яшчэ дадаў: — Я проста не магу сабе дазволіць на тое, каб расцягваць жніво, як калісьці бывала, на цэлыя тыдні. Трэба спяшацца, бо не хапае часу. Я абслугоўваю абмалотачны агрэгат арлянскай міжгурткоўскай машынатрактарнай базы, а затым — на маім хрыбце парадачная нагрузка грамадскіх абавязкаў. Я ж...

Ледзь паспяваю запісваць, што Аляксандр Ярымовіч з'яўляецца:

*1) членам грамадаўскага камітэта ПАРП, дзе адказвае за справы моладзі;*

*2) членам пленума павятовага праўлення Лігі абароны краіны;*

*3) членам прэзідыума кантрольнай рады пры ПЗГС-е ў Бельску, дзе кіруе працай маладзёжнай секцыі;*

*4) членам культурна-асветнай камісіі пры ГРН у Орлі;*

*5) членам рады спулдзельчага банку ў Орлі;*

*6) членам асветнай камісіі пры праўленні арлянскага ГС-у;*

*7) старшынёй клуба матацыклістаў у Орлі;*

*8) членам праўлення спартыўнага клуба «Алімпія» ў Орлі;*

*9) членам Саюза вясковай моладзі;*

*10) членам БГКТ;*

*11) членам камітэтаў па пабудове грамадскім чынам спартыўнага стадыёна і пляцоўкі для спартыўных спаборніцтваў па стральбе.*

— Ці, прынамсі на палавіну, не замнога гэтых грамадскіх абавязкаў, як на магчымасці аднаго, хаця маладога і энергічнага, чалавека?

— А што я магу зрабіць, — гаворыць Аляксандр Ярымовіч, — калі мяне ўсюды выбіраюць. Прашу, паясняю, а сябры мне адказваюць: «Ты, Сашка, не дурыся, ты найлепш патрапіш пакіраваць працай». Дык я ўжо дзесяты год хаджу абчэплены гэтымі грамадскімі абавязкамі, як навагодняя ёлачка бліскучымі цацкамі. У гэтых днях, для прыкладу, маю праверыць дзейнасць 13-ці вясковых клубаў у Бельскім павеце, якія спаборнічаюць на званне найлепшага клуба, сёння вось атрымаў паведамленне з Бельска, каб падрыхтаваць 15 матацыклістаў на павятовы злёт, які арганізуе аддзел камунікацыі і павятовае праўленне маторных клубаў. Калі рыхтаваўся тут у Орлі фэстын БГКТ, дык я не снедаў і не абедаў, каб толькі ўсё зрабіць як належыць.

— Якія сярод гэтых шматлікіх абавязкаў займаюць вам найбольш часу?

Перш за ўсё — спорт. Гэта мая стыхія. Футбол і спартыўныя спаборніцтвы на матацыклах

І сапраўды, у тым можна пераканацца, азіраючыся толькі па багата абсталяваным сучаснай, «гарадской», мэбляй парадным пакоі вясковай хаты Ярымовічаў. За шклом на ганаровым месцы ў бібліятэчнай шафе бачу сярэбраны кубак. Гравіраваны надпіс інфармуе: «*Пераходны кубак павятовай рады арганізацыі Людовыя спартыўныя калектывы за спаборніцтвы па футболу*». Гэты кубак нікуды ўжо ад арлянскіх спартсменаў «*пераходзіць*» не будзе. Заваявалі яго яны на ўласнасць у 1967 г.

— Наш гурток ЛЗС, — інфармуе Аляксандр Ярымовіч, — існуе ад 1961 года і цяпер налічвае 62 члены. Маем дзве секцыі: футбольную і маторную. Найбольш актыўнымі спартыўнымі дзеячамі з'яўляюцца ў нас Андрэй Куптэль, Леан Грынявіцкі і Уладзімір Багацэвіч. Трэба таксама з падзякай адзначыць, што дапамагаюць нам мясцовыя ГС і міжгурткоўская машынатрактарная база. Дзякуючы іх фінансавай падтрымцы, наша футбольная каманда мае поўнае спартыўнае абсталяванне: мячы, сеткі, касцюмы, гетры, абутак і т.п. Калі мы грамадскім чынам будавалі стадыён, гэтыя ўстановы таксама не адказвалі нам сваёй дапамогі. Нашу грамадскую працу ацанілі на 60 тысяч злотых. Стадыён яшчэ зусім не гатовы, на ўсё не хапае грошай, але ўжо цяпер зайздросцяць нам такой спартыўнай пляцоўкі многія гурткі ЛЗС у павеце.

У кожную нядзелю і ў кожнае свята гэты стадыён запаўняецца вясковымі спартсменамі і іх прыхільнікамі. У Орлю прыязджаюць футбольныя каманды з Плюціч, Міклашоў, Пілік, Аўгустова, Кнарыд, Дубяжына, Боцек і Райска. Разыгрываюць матчы на першынство ў павеце, на пераходны кубак, або звычайна праводзяць сяброўскія трэніроўкі.

Усё гэта патрабуе часу і ахвоты да грамадскай дзейнасці. Не здзіўляюся тады, калі за бібліятэчным шклом, побач сярэбранага кубка, бачу прышпіленыя да ганаровага сцяжка медалі, якія атрымаў Аляксандр Ярымовіч: «*Залатая адзнака ЛЗС*», «*Заслужаны дзеяч ЛЗС*» і «*Сярэбраная адзнака Лігі абароны краіны*». А сам гэты ганаровы сцяжок атрымаў ён таксама ад Ваяводскага праўлення ЛЗС. Тут жа яшчэ адзін сімвал прызнання: «*Дыплом за высокі ўраджай*».

Аж не хочацца верыць, што гэты 26-цігадовы селянін патрапіць спалучыць усе свае грамадскія абавязкі з добрай працай на гаспадарцы. Але такі ўжо ёсць Аляксандр Ярымовіч. Калі я з ім развітваўся, ён мне сказаў:

— А вы там за моцна мяне не расхвальвайце. У Орлі ёсць лепшыя ад мяне гаспадары. Зайдзіце хаця б да Васіля Рубашэўскага. Вось гэта гаспадар! Нават сярэднюю адукацыю мае.

Магчыма, пры нагодзе наведаем.

*В. Рудчык*



*Матч на арлянскім стадыене.*

*Фота Цаф — Сянько*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцікі або шнурочак.*

● БІБЛІЯТЭЧКА „НІВЫ" ● ВАСІЛЬ БЫКАЎ ● ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ ●



Камандзір роты крыху падумаў ці, можа, прыслухаўся. Але на вышыні было ціха, навокал ледзь чутна шапацеў золкі надакучлівы дождж. Толькі недзе далёка за пагоркам глуха таўклі зямлю выбухі.

— Пятнаццаць мінут на падрыхтоўку і — ўпярод.

Ананьеў сказаў гэта і змоўк. Новыя ўзводныя стаялі, не варухнуўшыся — насупраць унізе Піліпенка і збоку ад яго Шапа. Яны чакалі, што ён скажа яшчэ, але ён коратка кінуў: «Усё!», і яны хуценька пабеглі — адзін цераз поле, другі ў той канец насыпу. Камандзір роты ўзбег на адхон. Мяне ён быццам не заўважаў.

Што ж, атака — дужа звычайная на вайне справа, хоць, ведама, зусім прывыкнуць да яе нельга. Колькі б разоў ты ні падніма ўся ў атаку і ні асільваў у сябе свой страх, але кожны наступны будзе гэткі ж страхавітазнобкі, як і ўсе ранейшыя. Ой, як не хочацца вылазіць са свайго выратавальнага акопчыка ў вялікі грымотны свет, скрозь пранізаны кулямі ды асколкамі, самага маленькага з якіх дастаткова, каб скончыць тваё адзінае і такое неабходнае табе жыццё! Боязна ўставаць, але трэба. Кожную атаку вызначае загад вышэйшага камандзіра, план бою. Часам таго вымагае вораг, які, калі не знішчыць яго, знішчыць цябе.

Тут жа атакі не вымагаў ніхто.

Я перажываў і не ведаў, як падысці да чужога, рэзкага, проста злога і зацятага камандзіра роты, каб сказаць яму аб гэтым.

— Таварыш старшы лейтэнант!

Лежачы бокам на растаптаным адхоне, ён назіраў за праціўнікам і не павярнуў нават галавы. Але ён чуў мой зварот, нешта западозрыў у ім і насцярожыўся. І я, стоячы ніжэй, у трох кроках ад яго, ціха сказаў, каб учуў толькі ён і ніхто болей:

— Дарма вы.

— Што?

— Дарма, кажу.

Ананьеў марудна, бы ўпершыню мяне тут заўважыў, павярнуўся на локці.

— Што? — перапытаў ён такім тонам, што я аж сцяўся, і ён змерыў мяне працяглым, варожым позіркам. — А ты якога д'ябла тут акалачваешся? Я табе што загадаў? А ну, марш у тыл! Бягом!

Ён крычаў на мяне ўпершыню. Ніколі раней я не чуў ад яго злога слова, бо з усяе сілы стараўся не заслужыць нават заўвагі, і ён тое ведаў. А тут крык! І амаль непрыкметная непрыязнасць у позірку... Спярша мяне гэта здорава такі збянтэжыла, і я моўчкі стаяў з такім уражаннем, нібы пад нагамі загойдаўся і ціха паварочваецца кудысь і адхон, і дарога, і ўвесь белы свет. Але вельмі хутка стала зразумела, што не я быў прычынай нястрыманасці камандзіра роты, а хутчэй яго ліха, ягоная бязвыхаднасць і, мабыць, бездапаможнасць, а я толькі падвярнуўся яму не ў час. І мне не стала ні крыўдна, ні злосна, было толькі надта ўжо прыкра.

Між тым сюды ўжо бег першы ўзвод. Паўтара дзесят-



— Да, — спахапіўся ён у апошні момант і перакінуў цераз галаў тоненькі раменьчык планшэткі. — Трымай!

Я на ляту аднаруч ухапіў ванінскую планшэтку, а ён ускочыў на броўку дарогі і азірнуўся.

— Упярод!

Аўтаматчыкі хутка паўскаквалі і ўздоўж канавы падаліся па насыпе. Перад маімі вачыма замільгалі іх раскіслыя боты, чаравікі, брудныя полы шынялёў са зблытанымі махрамі ўнізе, і я праводзіў кожнага жаласным позіркам, нібы развітваўся з ім. Штось кепскае, недарэчна-няўхільнае авалодала ротай, я ўсё выразней адчуваў гэта. Але што я мог зрабіць? Я быў толькі радавы аўтаматчык, вельмі маленькі на вайне чалавек, каб мець нейкую ўладу над гэтай жалезнай няўмольнасцю падзей. Я мог толькі адчуваць яе несправядлівасць, і гэта адчуванне кідала мяне ў роспач.

Здаецца, упершыню я апынаўся ў становішчы назіральніка з тылу, упершыню рота пайшла без мяне, упершыню Ананьеў павёў яе ў атаку не са мной — з другім. Ведама, яго словы наконт Чумака-ардынарца я не надта прымаў усур'ёз (які там з Чумака ардынарац!) і ўсё ж не спускаў з іх вачэй, гледзячы, як яны беглі па дарозе да рэчкі, разам пераходзілі яе па бэльках. І тут мне з невясёлай усмешкай падумалася, што гэты Чумак надта ўжо дбайна ўзяўся за выкананне сваіх абавязкаў — падобна, і на самай справе паверыў, што камроты зробіць з яго героя.

Аўтаматчыкі палезлі ў рачулку, ля дарогі ўжо не засталося нікога, наўкола зрабілася нязвыкла ціха і пуста. Грыневіч, нібыта нежывы, роўна ляжаў пад насыпам, невідушча падставіўшы дажджу бледны з цёмнаю шчэццю твар. Здаецца, папала яму здорава. Цяпер у маю трывогу за роту ўплятаўся яшчэ і непакой за лейтэнанта, хоць бы ён пратрымаўся да адпраўкі ў тыл. Збегшы ўніз з адхону, я ціха спытаў:

— Ну, як вы?

— Васюкоў, да? Кепска, брат, — прастагнаў нампаліт.

— Даць вады?

— Дай трохі.

Вады ў круглым кацялку, пакінутым ля параненага, было нямнога, ды і той я палову разліў, пакуль няўмела, адною рукой, паіў небараку. Пакутна глытнуўшы разы два, ён ледзьве не задыхнуўся, чым амаль напалохаў мяне.

— Ну, як?

— Усё добра, — выраўняўшы дыханне, сказаў лейтэнант. — Рота пайшла?

— Пайшла. На тым баку ўжо.

Асцярожна я паправіў на яго галаве шапку, якая прыкрывала ад дажджу пухлую няўмелую павязку, вышэй нацягнуў палатку. Выгляд нампаліта мне надта не падабаўся — але што можна было зрабіць?

— Не трэба было вам ісці, — сказаў я з папрокам за яго нядаўнюю спрэчку з Ананьевым.

74.

ка аўтаматчыкаў гуськом трухалі па ўзмежку. Піліпенка, матляючы поламі даўгаватага шыняля, ужо збягаў у балацявінку. Я засцярожліва зірнуў на вышыню — на шчасце, вяршыня яе ўсё хуталася ў волкім тумане, інакш не шмат іх дабегла б да насыпу.

Ананьеў сеў на адхоне і саўгануў «вальтэра» бліжэй да спражкі.

— Дай каску! — раптам сказаў ён, ужо без нядаўняй варожасці, нібы тым даючы зразумець, што больш на мяне не злуецца. Не ведаючы, як рэагаваць на тое, я здзёр цераз падбародак мокры брызентавы раменьчык каскі і аддаў яе камроты.

— Толькі там донца няроўна падвязана, — папярэдзіў я.

— Што?

— Донца, кажу, крыва падвязана.

— Чорт з ім! Донца!..

Ён прывычна сунуў галаў у каску, але мокры раменьчык не налязаў на яго касцістую шырокую сківаіцу, і тады ротны закінуў раменьчык на беражок каскі.

— Смажанаму карасю кот не страшны, — са значэннем сказаў ён. — Паняў?

Не, я ўсё яшчэ мала што разумеў у прычынах яго намераў і з жалем і прыкрасцю пакорна стаяў насупраць. Ззаду ўздоўж насыпу ўжо разбягаліся аўтаматчыкі першага ўзвода. Піліпенка, чутна было, са звыклай грубаватасцю пакрыкваў:

— Не высовуйся: Нэ лізь попэрэд бацька в пэкло! Чого не бачыв?

— Ось так! — сказаў Ананьеў, нібы гаварыць нам ужо не было пра што, і гукнуў: — Чумак, ка мне!

Чумак падхапіўся з ланцуга і, нязграбна валюхаючы, падбег да камандзіра роты.

— А ну, бліжэй! Не бойся: не ўкушу. Будзеш за ардынарца, паняў? Я цябе вывучу на героя, ядрона вош!

Чумак моўчкі стаяў, мабыць, не ведаючы, як успрымаць гэтыя словы: жартам або ўсур'ёз. Шынэлак яго ўжо быў падпярэзаны нейкаю, мабыць ад штаноў, папружкай, на галаву паверх шапкі натыкнута нечая абшкрэбаная каска. І тут я міжвольна зірнуў на яго ўсё тыя ж даволі-такі ладныя боты і амаль жахнуўся ад выразнае і зусім недарэчнае цяпер думкі: няўжо і сапраўды яны сёння дастануцца мне?

— Васюкоў, аддай аўтамат! — дзелавіта загадаў ротны. — Паглядзіш нампаліта.

Нампаліта — няхай, але аўтамат мне аддаваць не хацелася, хоць Чумаку, вядома, нельга было без зброі. Пашкадаваўшы трохі ў душы, я зняў з пляча свой ППШ, і Чумак узяў яго з паспешнай гатоўнасцю чалавека, які баіцца, каб той, хто дае, не перадумаў. Праўда, разбіты канец прыклада яму, здаецца, не спадабаўся, але ён тут жа ўздзеў аўтамат на плячо.

Ананьеў зірнуў управа, улева — усе на адхоне глядзелі на яго, чакаючы каманды, і камандзір роты тузануў язычок кабуры.

76.

— Не трэба. Пагарачыўся. Але гэты Ананьеў... Не думае, што робіць.

— Што ён такога зрабіў?

— Не разумееш? Зразумееш калі-небудзь.

Магчыма, я чагосьці не ведаў або не разумеў чагось, што было добра вядома ім, больш вопытным на вайне і ў жыцці. Але мне ўсё здавалася, што як Грыневіч у сваёй нядаўняй гарачнасці, так і Ананьеў у апошнім рашэнні на атаку — абое памыляюцца. Апроч таго, усё гэта так заблытвала наша становішча, што яно ўжо вельмі нават проста магло абярнуцца бядой.

Аднак з параненым мне не сядзелася. Надта ўжо журботна было глядзець на яго абяскроўлены, пакутна нерухомы твар, зноў жа адсюль не было відаць роты. Пакінуўшы лейтэнанта, я ўзбег на адхон і прысеў, высунуўшы з-над дарогі галаў.

Дожджык усё імжэў, усё шырэй расплываўся туман у лагчыне, снегу на тым баку рэчкі заставалася няшмат — абталыя шызыя плямы на мокрым, гразкім схіле, па якім у трэці раз беглі аўтаматчыкі. З усё большай і большай тугой у душы я глядзеў, як катастрафічна хутка змяншаецца ў імглістай прасторы кароценькі іх ланцужок. Даўняя звыклая сувязь між намі ўвачавідкі рвалася, штосьці няўхільна-пагрозлівае ўпарта раз'ядноўвала нас, я невыразна адчуваў гэта, але працівіцца яму не мог, бо гэта невыразнае, неканкрэтнае нешта было мацней за мяне, за іх і за ўсю нашу роту. Ананьеў то бег, то хутка ішоў наўкось па схіле, аднойчы нагнуўся, таропка перавярнуў на спіну цела забітага, узяў яго аўтамат. Пасля ён хвіліну бег, займаючы сваё месца ў ланцугу, а хтось — што ішоў ззаду — можа Чумак, — нядоўга затрымаўся над трупам — здаецца, знімаў сумку з дыскамі або гранатамі.

Рота дасягала сярэдзіны схілу. Ужо нялёгка было і згледзець яе за імглістай заслонай дажджу, якая, на шчасце, хавала аўтаматчыкаў і ад немцаў. Толькі ці надоўга? З вышыні іх вось-вось павінны былі ўбачыць, і тады...

Тым не менш, немцы маўчалі. Цяжка было паверыць, што яны і ў другі раз так зазяваліся, што не заўважаюць атакі. Кепска было відаць, але мне здавалася, што верх вышыні ўжо зусім блізка. Яшчэ адзін, самы апошні рывок, і можна будзе кінуць гранату, выскачыць з-за абрыву і, калі пашанцуе, з ходу заняць канец траншэі. Эх, каб хоць адным аддзяленнем удалося ўварвацца ў траншэю!..

Унізе ў засяроджанай адзіноце маўчаў Грыневіч, я не адразу зразумеў, што і ён чакае вестак з вышыні, і, мабыць, не дачакаўшыся таго, што хацеў, адклікнуў:

— Васюкоў! Дзе рота?

— Пайшла, пайшла.

— А чаму не страляюць?

# РАЁННАЯ БАЛЬНІЦА



*Чэрвеньская раённая бальніца (БССР) гэта не толькі лячэбная ўстанова. Гэта штаб, навуковы і метадычны цэнтр службы здароўя раёна. Брыгады ў складзе лекараў розных спецыяльнасцей сістэматычна выязджаюць у калгасы і саўгасы, дзе праводзяць кваліфікаванае абследванне насельніцтва. Папярэджванне захворванню — галоўны напрамак работы бальніцы.*

# Фільм аб татарах

Нядаўна рэдакцыю «Нівы» наведаў ранейшы яе працаўнік і вядомы даследчык польска-беларускіх літаратурных сувязей XIX стагоддзя мгр Мацей Канапацкі. У апошнія гады мгр М. Канапацкі шмат працы прысвяціў даследванню гісторыі і культуры татараў, якія жывуць у Польшчы. У выніку ў польскім друку і па-за межамі краіны выйшла некалькі яго навуковых прац.

Цяпер мгр М. Канапацкі працуе ў аддзяленні інфармацыі па справах друку ў дырэкцыі Гданьскай суднабудаўнічай верфі.

У сучасны момант М. Канапацкі гасцюе на Беласточчыне, тут ён рэалізуе фільм аб татарах, якія пяць стагоддзяў таму пасяліліся на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, між іншым і на Беласточчыне. Рэжысёр фільма — М. Сеньскі, кінастудыя — «Czołówka». Фільм расказвае аб гісторыі татараў, іх укладзе ў абарону зямель даўнейшай Рэчы Паспалітай, мусульманскім рэлігійным культце. Спецыяльная ўвага звернута на татарскія рукапісы, якія, як вядома, пісаліся арабскім алфавітам, але на беларускай мове. Фільм здымаецца ў Гданьску, Варшаве і на Беласточчыне, г. зн. у Беластоку, Крушынянах і Багоніках. У фільме выкарыстаны ўнікальныя матэрыялы, што знаходзяцца ў дзяржаўных архівах, бібліятэках і ў прыватных калекцыях. Выступіць у ім і сам М. Канапацкі.

Фільм паявіцца на экранах на пачатку 1972 года.

(мг)

## ці ведаеце, што...

...вялікай папулярнасцю карыстаецца ў Польшчы мова эсперанта. Аб гэтым сведчыць факт, што выдадзена ў нас пасля вайны 18 падручнікаў і 11 слоўнікаў агульным тыражом больш 320 тысяч экземпляраў. Усе яны хутка зніклі з кнігарняў.

...аб'яднанне ЛЗС налічвае 1.003 тысяч членаў.

...пражывае зараз у нашай краіне 4,3 мільёна людзей ва ўзросце больш 60 год. Прадугледжваецца, што ў двухтысячным годзе будзе іх каля 7,4 мільёнаў асоб. (яц)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПАРЭЧКІ

Парэчкі з'яўляюцца крыніцай вапна і вітаміна С. Можна рабіць з іх дасканалыя напіткі, кісялі, жэле, сокі.

### ВІТАМІННЫ КІСЕЛЬ З ПАРЭЧАК

Паўкілаграма парэчак старанна мыем, ачышчаем ад галінак і шыпулак, заліваем кіпятком на сіце, а пасля выціскаем сок у міску. Тое, што засталося на сіце, заліваем у каструльцы вадой, кіпяцім і працэджваем. Дадаем па смаку цукар, а вады на паўкілаграма парэчак дастаткова ўзяць 1 літр. У невялікай колькасці вады распускаем 2 лыжкі крухмалу, дадаем да працэджанага вывару і кіпяцім, памешваючы. А пасля дадаем сыры сок, выціснуты з парэчак. Калі кісель атрымаўся ў вас густы, дык можна яго падаць са збітай смятанкай, упрыгожваючы кожную місачку галінкай парэчак, альбо са збітымі з ванільным цукрам бялкамі (можна да іх дадаць крыху джэму з парэчак), або з ванільным соусам, падрыхтаваным са шклянкі малака, «зацягнутага» двума жаўткамі, збітымі з цукрам і ванілінам.

### АСВЯЖАЮЧЫ НАПІТАК З ПАРЭЧАК

1 шклянку соку, выціснутага з парэчак, астуджаны сіроп са шклянкі вады і шклянкі цукру, 2 шклянкі чырвонага дэсертнага віна і сіфон газіраванай вады перамешваем і падаем у высокіх шклянках з лёдам і «саломінкай».

### ЖЭЛЕ З ПАРЭЧАК І МАЛІНЫ

Жэле атрымаецца вельмі смачнае і араматнае, калі на 1 кг чырвоных парэчак мы возьмем паўкілаграма маліны. З маліны трэба выціснуць сыры сок, а парэчкі добра памыць, ачысціць ад галінак і шыпулак, заліць у каструльцы вадой, так, каб толькі прыкрывала ягады, і ад таго моманту, калі вада закіпіць, кіпяціць 5 мінут.

Пераліць усё ў чысты, вывараны мяшочак, моцна звязаць і павесіць, каб сцякаў сок (найлепш пакінуць мяшочак да наступнага дня). Беручы сок для жэле, трэба яшчэ адціснуць лёгка мяшочак, пасля чаго атрыманы сок змяшаць з малінным сокам. На кожную шклянку соку бяруць шклянку цукру. Вымяшаць, паставіць на даволі інтэнсіўны агонь і ад таго моманту, калі сок закіпіць, гатаваць яго дакладна 15 мінут. Зняць з агню; пераліць у невялікія, чыстыя, выпражаныя ў пекарніку і крыху астуджаныя слоікі. Пакінуць жэле ў слоіках, каб застыла, а пасля зверху кожнага слоіка на жэле класці кавалак пергаментнай паперы, змочанай у спірце. Абвязаць слоікі цэлафанам.

Атрымаем мы такім чынам дасканалае жэле, якое можна не толькі мазаць на хлеб і піць з чаем зімою, але і ўжываць таксама пры пячэнні тортаў, пірагоў, розных перакладанцаў.

*Гаспадыня*

# ЗЛАВЕСНАЯ ТАЙНА ВЕРМАХТА



Нават у першы дзень бамбардзіроўкі Лондана снарадамі «Фау—1» Чэруэл смеючыся сказаў: «Гара нарадзіла мыш». Гэта было ў той час, калі Гітлер меў намер накіроўваць на Лондан штодзённа 800 снарадаў «Фау—1», г.зн. 800 тон узрыўчаткі! Усяго ад «Фау—1» загінула 8.700 англічан, было разбурана 20 тысяч дамоў, знішчана шостая частка ваеннай прадукцыі сталіцы. Днём і ноччу мільёны жыхароў Вялікага Лондана і бліжэйшых гарадоў, затаіўшы дыханне, услухоўваліся ў злавесны свіст лётаючых страшыдлаў; затым чуўся выбух. Гэта была смяротная небяспека. Пазней генерал Эйзенхауэр сказаў: «Калі б немцам удалося ўвесці свае «Фау» ў дзеянне на паўгода раней, высадка ў Францыі была б вельмі цяжкай, а можа нават і немагчымай».

Але гэты ж Эйзенхауэр, будучы галоўнакамандуючым войскамі НАТО ў Еўропе, а потым прэзідэнтам ЗША, зрабіў усё, каб знік успамін аб аперацыі «Вішнёвая костачка». А з дапамогаю «Фау» Гітлер меў намер абстрэльваць не толькі Лондан, але і Нью-Йорк! Ён збіраўся весці імі агонь з падводных лодак, што падышлі да Нью-Йорка на адлегласць у 200 кіламетраў.

— Цудоўная ідэя, — сказаў тады генерал-фельдмаршал Мільх, бліжэйшы памочнік Герынга, — шкада, што тэхнічны стан нашых падводных лодак не дазваляе яе ажыццявіць!

450 самалётаў і 2900 лётчыкаў страцілі саюзнікі, бамбардзіруючы стартавыя пляцоўкі «Фау—1». Сярод загінуўшых лётчыкаў быў і Джозеф Кенедзі — старэйшы брат будучага прэзідэнта ЗША.

Але вернемся да Вахтэля Вольфа. Праз два дні пасля першага абстрэлу Англіі «Фау—1» да Вахтэля завіталі некалькі важных паноў, што паслаў рэйхсмаршал Герынг.

— Пан палкоўнік, мы — судздзі Асобага ваеннага трыбунала. Пан рэйхсмаршал загадаў расследваць справу.

— Якую справу?

— Чаму не ўдалася першая бамбардзіроўка.

Пачалося следства. 17 чэрвеня ў штабе з'явіўся сам Гітлер разам з генерал-фельдмаршаламі Ромелем і Рундштэтам. Ён хацеў асабіста праверыць, ці не было тут здрады ці сабатажу. Не паспеў фюрэр вылецець у Берхтэсгадэн (Баварыя), як там, дзе ён толькі што быў, разарвалася бомба, скінутая з англійскага самалёта. Цяпер у службы бяспекі больш не было сумненняў у здрадзе.

Але хто здраднік? Падазрэнне было на Вахтэля. Узмацнялася яно вельмі сур'ёзнай акалічнасцю. Ён паслаў за інфармацыяй у раён Шэрбура, дзе ішлі жорсткія баі паміж немцамі і высаджанымі англаамерыканскімі войскамі, аднаго са сваіх важнейшых экспертаў — прафесара Летау. А той трапіў у палон.

Ваенны пракурор сцвярджаў, што Летау разам са сваёй палюбоўніцай — францужанкай перайшоў да праціўніка з мэтай выдаць сакрэты «Фау». Вахтэлю

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЛЕТА ВЯСКОВЫХ ДЗЯЦЕЙ

Камэнда гуфца ЗГП у Бельску шмат увагі прысвячае арганізацыі добрага адпачынку вясковым дзецям. У гэтым годзе ў гарцэрскіх і зуховых лагерах пабывала 300 вясковых дзяцей. Каля 100 дзяцей пабывала на адпачынку, арганізаваным для дзяцей рознымі прадпрыемствамі.

Большасць вясковых дзяцей не мае магчымасці карыстацца арганізаваным адпачынкам. Яны застаюцца на вёсцы і дапамагаюць бацькам у працы па гаспадарцы. Для гэтых дзяцей штаб нялагернага лета арганізуе шмат цікавых заняткаў. У чэрвені месяцы ў лагеры ля Самулак былі падрыхтаваны да акцыі нялагернага лета 400 застэмповых. На тэрыторыі павета ў апошнія дні ліпеня дзейнічала каля 400 зухаў, гарцэраў і неарганізаванай моладзі. Дзеці выконваюць заданні «Падарожжа рабінзонаў 71». Яны арганізуюць цікавы занятак для сваіх равеснікаў і жыхароў вёскі, арганізуюць спартыўныя спаборніцтвы, выконваюць розную працу грамадскім чынам, збіраюць ягады і грыбы і інш.

Вось некалькі прыкладаў актыўнай працы дружын нялагернага лета. Застэмп пад кіраўніцтвам Леана Апалінскага з Паўлаў, выконваючы другое «Падарожжа рабінзонаў 71» пад лозунгам «Навязваем сувязь», арганізаваў паход на пошту. Там дзеці пазнаёміліся з працай пошты. Застэмп быў арганізатарам некалькіх цікавых вечарын і кастроў. Дзеці ўзялі пад сваю апеку курган, дзе былі пахаваны салдаты АК, загінуўшыя ў баі з гітлераўцамі.

Застэмп Святланы Чэчугі з Райска арганізаваў збор ягад. Атрыманыя за ягады грошы былі прызначаны на ўзнагароды для самых актыўных членаў. У жніво дзеці рыхтавалі розныя напіткі і насілі жнэцам у поле.

Застэмп Галіны Федарук з Рыбалаў арганізаваў экскурсію ў лес. Там дзеці ачышчалі лес ад паперкаў, шкла і іншага бруду.

Гэта толькі некалькі прыкладаў, як працуюць вясковыя групы, як вясковыя дзеці арганізуюць свой адпачынак, як праводзяць канікулы. А праводзяць іх сапраўды карысна.

*Начальнік штаба акцыі нялагернага лета*

*гм. Яўгень Зіневіч*

## БУДЗЕ ЛЕПШАЯ ДАРОГА

Дзякуючы солтысу вёскі Крывяцічы Пятру Будцы будзе адноўлена дарога пры мясцовай святліцы. Пасля звозкі жвіру і камення ГРН у Орлі прыслала брукара. Рамонт дарогі будзе вельмі карысны таму, што ў час непагоды ў святліцу не трэба будзе ісці па балоце.

*Ваня Кірызюк*

## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Я жыву на вёсцы. Мне 17 год. Вучыўся ў горадзе. Але вось цяпер летнія канікулы, і я прыехаў дамоў. У нашай маленькай вёсцы ёсць мае сябры, з якімі кожную нядзелю вечарам, а часам і ў будзённы дзень, ездзім веласіпедамі ў суседнюю вёску, у якой знаходзіцца клуб.

Аднойчы ў нядзелю я са сваім сябрам з суседняй вёскі пабываў у гэтым клубе. Гэтым жа вечарам пазнаёміўся я з дзяўчынай, якая мне вельмі спадабалася. Думаю, што я ёй таксама. Яна мае 16 год, закончыла пачатковую школу. Вучыцца не ідзе, застаецца на вёсцы. Таня вельмі, вельмі прыгожая. Яшчэ такой прыгожай дзяўчыны я не бачыў. У гэты вечар я правёў Таню дамоў. Цяпер кожную нядзелю езджу ў клуб, сустракаюся з ёю. За Таняй ходзяць

### Сардэчныя ТАЙНЫ

хлопцы чарадой, бо іх прыцягвае яе прыгажосць. Баюся, што засталося ўжо вельмі мала часу да пачатку навукі ў школе. Пачынаю думаць, што рабіць: пакінуць школу і пачаць дружыць з «Таняй-прыгажуняй» ці ехаць у школу ў горад.

Парай, дарагое Сэрцайка, як лепш паступіць?

*Міша з Гайнаўшчыны*

*Міша!* Як найхутчэй выкінь з галавы такую неразумную думку. Ведай, што потым немагчыма будзе направіць свой неразважлівы крок. Перад табой яшчэ жыццё (які ж з цябе кавалер). Калі станеш дарослым, сустрэнеш нямала «Таняў-прыгажунь». Хоць жыццё чалавека — гэта не толькі (і ўвогуле) прыгожы твар, яшчэ ж лічыцца яго характар, адносіны да людзей і ўсё іншае. Зрэшты, Таня таксама ж яшчэ толькі дарастаючая дзяўчына. Калі ўжо Таня табе так моцна падабаецца, нічога не перашкаджае вам далей утрымліваць сяброўскія адносіны: пісаць пісьмы, час ад часу сустрэцца, калі прыедзеш да бацькоў. Калі б ты сапраўды пакінуў школу і Таня аб гэтым дадалася, напэўна не захацела б далей дружыць з табой, бо дзяўчаты вельмі не любяць хлопцаў «без характару».

*Жадаю добрых вынікаў у навуцы ў новым школьным годзе.*

*Сэрцайка*

**ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «Ніву»!**

## ЗМЕНЫ Ў РЭГІСТРАЦЫЙНЫХ АПЛАТАХ ЗА АЎТАМАШЫНЫ ПРЫВАТНЫХ УЛАСНІКАЎ

У Маніторы Польскім № 35 паз. 227 ад дня 1 ліпеня 1971 г. паявілася распараджэнне міністра камунікацыі аб рэгістрацыйных аплатах за аўтамашыны.

Пададзенае распараджэнне прадугледжвае павышэнне рэгістрацыйных аплат за легкавыя і грузавыя аўтамашыны, трактары і спецыяльныя машыны, якія з'яўляюцца ўласнасцю прыватных асоб.

Гаспадары аўтамашын, якія заплацілі рэгістрацыйную аплату перад уваходам у жыццё новага распараджэння, абавязаны да 30 верасня 1971 года зрабіць адпаведную даплату. Гэта значыць, што павышаная рэгістрацыйная аплата ўведзена ўжо ад пачатку гэтага года.

Для аўтамашын, якія служаць для публічнага перавозу пасажыраў (таксі), павышаныя рэгістрацыйныя аплаты ўведзены будуць ад студзеня 1972 года.

У сувязі з вышэй сказаным, аддзел камунікацыі Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку звяртаецца з просьбай да ўсіх прыватных уласнікаў аўтамашын, каб да 30 верасня 1971 г. унеслі даплату, а тых, хто яшчэ не ўплаціў рэгістрацыйную аплату за 1971 год, каб зрабіў гэта як найхутчэй.

Папярэджваецца, што органы кантролю дарожнага руху будуць забіраць рэгістрацыйныя дакументы, калі наогул не ўнесена рэгістрацыйная аплата, ад 30 верасня 1971 г. — калі не зроблена даплата, а адпаведны аддзел камунікацыі загадае выключыць машыну з руху. Апрача таго, згодна з арт. 24 п. 13 пастановы аб бяспецы і парадку руху на публічных дарогах (Дз. У. №53, паз. 295 ад 1961 г.,) асобы, якія не ўнясуць адпаведнай рэгістрацыйнай аплаты, могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці і заплацяць штраф да 4500 зл.

Таму ў інтарэсах кожнага ўласніка аўтамашыны — заплаціць патрэбную суму і не ўваходзіць у канфлікт з абавязваючай пастановай.

*Намеснік кіраўніка аддзела камунікацыі Прэз. ВРН К. Тэрлецкі*



*Паштоўка з Нараўкі* *Фота Цаф — Сянько*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Noc Iguany" (USA), 24—25. „Ranny w lesie" (polski), 26—27. „Pejzaż z bohaterem" (polski), 28—29.

**Нараўка**

„Drugi człowiek" (polski), „Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (ang.), 25—29.

**Нарва**

„Ucieczka w kajdanach" (USA), „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 24—29.

**Чыжы**

„Alba Regia" (węgierski), „Dziki pies Dingo" (radz.), 25—29.

**Дубічы Царкоўныя**

„Jarzębina czerwona" (polski), „Los człowieka" (radz.), 25—29.

**Арэшкава**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 25—29.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Twarz anioła" (polski), „Kosmos wzywa" (radz.), 25—29.

**Орля**

„Ostatni termin" (USA), „Zabawy w muzeum" (węgierski), 25—29.

**Райск**

„Ostatnie wakacje" (radz.), „Znaki na drodze" (polski), 25—29.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Człowiek z karabinem" (radz.), 24—25. „Na torze czeka morderca" (czeski), 26—27. „Pan Dodek" (polski), 28—29.

**Янаў**

„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 25—29.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Biała pani" (czeski), 24—25. „Krwawa bajka" (jugosł.), 26—27. „Krajobraz po bitwie" (polski), 28—29.

**Мельнік**

„Poste Restante" (rumuński), 24—25. „Pan Dodek" (polski), 26—27. „Sklep z modelkami" (USA), 28—29.

**Мілейчыцы**

„Gorzkie życie" (włoski), 24—25. „Mocne uderzenie" (polski), 26—27. „Jankes" (szwedzki), 28—29.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Krajobraz po bitwie" (polski), „Tajemnice Kalakry" (bułg.), 24—29.

**Новы Двор**

„Lenin — karty życiorysu" (radziecki), „Fraulein doktor" (jugosłowiański), 25—29.

прад'явілі абвінавачанне ў «злачыннай халатнасці». Але яму пашанцавала. За яго заступіўся сам фюрэр, як толькі 22 ліпеня 1944 г. даведаўся, што на Лондан упаў 5-тысячны снарад «Фау—1». Ад 19 лістапада таго ж года на англійскую сталіцу абрушылася яшчэ 5 тысяч такіх жа снарадаў.

Затым бамбёжка спынілася з той прычыны, што войскі саюзнікаў, якія рухаліся на ўсход, зрабілі немагчымым далейшы абстрэл англійскай сталіцы з кантынентальных баз і паклалі канец шматлікім ахвярам сярод цывільнага насельніцтва і вялікім разбурэнням. А ўсё гэта стала магчымым толькі таму, што з усходу на «трэцюю імперыю» ішлі савецкія войскі, адцягваючы ўсё больш ордаў Гітлера. Іменна аб гэтым не варта было б забываць тым, хто цяпер братаецца з нацыстамі і неанацыстамі, хто так ахвотна прадстаўляе тэрыторыю Вялікабрытаніі бундэсверу — паслядоўніку вермахта.

Вельмі хутка забылі ў Англіі пра аперацыю «Вішнёвая костачка». Аб гэтым наглядна сведчыць эпізод, які адбыўся 3 снежня 1959 года на аэрадроме ў Гамбург-фульзбютэль, дзе ўжо восем гадоў пасаду дырэктара займае былы палкоўнік Вахтэль-Вольф, забойца многіх тысяч англічан. Ён толькі што даведаўся, што цяпер з Лондана чакаецца самалёт тыпу «Віскаунт» авіякампаніі «БЕА». На яго борце — міністр грамадзянскай авіяцыі Данкен Сэндзіс, зяць Чэрчыля. Вахтэль ведаў, што іменна Сэндзіс у час вайны імкнуўся яго злавіць, а Сэндзіс добра ведаў, чым займаўся тады Вахтэль. Між тым, Сэндзіс не толькі пасяброўску падаў Вахтэлю руку, але запрасіў выпіць з ім віскі. Пры гэтым англійскі міністр смеючыся, задаў такое пытанне:

— Ці ведаеце вы, што ў 1944 годзе мае людзі за вамі ганяліся? У іх быў загад або даставіць вас жывым у Англію, або забіць.

— Няўжо? — усміхнуўся немец.

— Так. Мы за вамі сачылі, цікавіліся вашай работай. А тое, што я цяпер пазнаёміўся з вамі асабіста, прыносіць мне сапраўднае задавальненне.

Сапраўды, кашчунныя словы!

## ЗНІКАЮЦЬ АБЛОГІ

У выніку камасацыі на тэрыторыі грамадскай рады Белавежа аказалася каля 100 гектараў ворыва і пасбішча ва ўладанні Дзяржаўнага зямельнага фонда.

Як паінфармаваў нас сакратар ГРН у Белавежы тав. Б. Слёнзак, з гэтай плошчы колісьніх аблогаў 45 га ўжо перададзена ва ўжытак сялянам, 9 га перадаецца лясніцтвам на пасадку лесу. Найбольш клопату з рэштай. Гэта звыш 40 га забалочаных лугоў у пойме ракі Нараўкі. Меліяраваць іх нельга, бо паніжэнне ўзроўню вады ў рацэ, як сцвярджаюць вучоныя, давядзе да змен у раслінным і жывёльным свеце Белавежскай пушчы. На такі крок нельга пайсці. Белавежа з'яўляецца ўнікальным запаведнікам агульнаеўрапейскага значэння. Але і 40 га лугоў таксама шкада. Што рабіць? (мг)

## ДРЭННА Ў ЗАБЕСПЯЧЭННІ

На чыгуначнай станцыі ў Семяноўцы, Гайнаўскага павета, існуе буфет ГС-у ў Нараўцы. У буфеце не заўсёды можна купіць мясныя або рыбныя кансервы, хлеб або які-небудзь напітак, як ліманад ці які іншы.

Варта адзначыць, што на станцыі ў Семяноўцы працуе многа рабочых на міжнародным перагрузачным пункце, і забеспячэнне іх шырокім асартыментам спажывецкіх прадуктаў тут неабходна. ГС у Нараўцы павінен як найхутчэй зліквідаваць недахопы ў забеспячэнні буфета. Рабочыя чакаюць. (яц)

## ЧЫН

18.07.1971 г. моладзь вёскі Крывяцічы правяла чын у пабудове танцавальнай пляцоўкі пры мясцовай святліцы. Улетку вельмі горача і душна танцаваць у святліцы. Частку грошай на цэмент даў сельскагаспадарчы гурток, частку — сабрала сама моладзь. Пры пабудове актыўна ўдзельнічалі Сцяпан Дружба, Мікалай Будка, Грыша Суліма і ўсе члены БГКТ і ЛЗС. Кошт чыну налічвае больш, чым шэсць тысяч злотых.

*Ваня Кірызюк*

## ХЛОПЦАЎ БОЛЬШ

У гайнаўскай бальніцы імя В. Очкі на працягу апошніх 6 месяцаў нарадзілася 172-ое дзяцей жаночага полу і 186 дзяцей мужчынскага полу. (яц)

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

# ХАЛАСЦЯК

Хаця сябры і бэсцяць
Мяне і так і сяк,
А ўсё ж я, чэсць
па чэсці
Скажу вам, — халасцяк.
Ці голадна ці сытна, —
Жыві і ў вус не дзьмі,
Калі ты не абсыпаны,
Як дробязяй, дзяцьмі.
Затое іншым цешся:
Не б'юць жа пад бакі
Ні жонка, і ні цешча,
Ні скнары-сваякі, —
Каб кожную саломіну
Ці нітку, галубок,
Дадому ў хароміну
Цягнуў ты і валок;
Каб меў з усякай справы
Уласны інтарэс,
З начальствам быў ласкавы,

Ды сам угору лез...
А так сабе, як голуб,
Жыві, халасцякуй.
Трымай высока голаў
Ды навакол цікуй!
Халасцяку — выгодна:
Не ходзіш пад дугой.
А прыйдзе дзень
выходны —
Да каліўца ён твой!
Намажаш боты шмальцам
І ўжо сярод усіх
Вясковых падшывальцаў
Найпершы ты жаніх!
Калі ж яшчэ з гармонікам,
Адкінуўшы свой чуб,
Пад кожным падваконнікам
Ты пройдзеш прама ў клуб,
Суседкі-маладзічкі —
Панадныя сунічкі —
Ледзь не б'ючы паклон,
Глядзяць услед з акон.
І маладыя модніцы —
Нядаўнія разводніцы —
Аж зыркаюць з-за ліп,
Каб ты да іх прыліп...
Ды толькі мёду гэткага
Хоць крышку паспытай —
Прапаў ні за капейку
Твой халасцяцкі рай.
Таму і не зважаеш
Ні кропелькі на іх...
У клубе выбіваеш
Чачотку за дваіх!
Раскрые рот падлетак
Ад зайздрасці, як шпак.
Хто ж можа выбіць гэтак,
Як брат наш, халасцяк?!
Пара дадому тэпаць.
Ідзеш у халадку,
А стома — нібы цэпам
Дзень бухаў на таку.
Ды ўсю дарогу верыш,
Што нехта з маладзіц,
Дальбо, цябе, халеру,
Пад раніцу сасніць.

*Васіль Макарэвіч*

# НІЎКА



*Вада + электроніка = задавальненне².*

## УЗАЕМНА ЗЫЧЛІВЫ

— Добры дзень!
— Добры дзень!
— Дайце, калі ласка, закурыць!
— Прашу, калі ласка!
— Шчыра вам дзякую!
— Шчыра вам удзячны за вашу падзяку.
— У такім выпадку, дзякую вам за вашу ўдзячнасць на маю падзяку...
— Здзекуешся, ёлапень?
— Ад таго чую!



## ЗНАЙШОЎ

Адзін пачынаючы біёлаг праводзіў эксперыменты над казяўкамі, каб высвятліць, дзе ў іх орган слыху. Аднойчы ён падбег да свайго таварыша і радасна закрычаў:

— Знайшоў!
— Што знайшоў?
— Знайшоў, дзе ў казявак орган слыху! Вось глядзі! Ён узяў казяўку, палажыў на шкло і крыкнуў:
— Лезь!..
Казяўка палезла.
Потым даследнік паадрываў ёй ногі і зноў закрычаў:
— Лезь!
Але яна — ні з месца.
— Бач, не палезла, бо не пачула. Значыць, у казявак орган слыху ў нагах! — радасна крыкнуў эксперыментатар.

## ДОБРАЯ ГАСПАДЫНЯ

Тыдзень пасля вяселля маладая жонка кажа мужу:

— Янка, ты баршчу хочаш?
— Хачу...
— Дык збегай у гасподу, паеш і мне заадно прынясі.

## ЛЯКАРСТВА АД СВАРКІ

Сустрэліся дзве сяброўкі.
— Ірачка, як жывеш?
— Ой, Волечка, муж вельмі зайздросны, і таму ў нас частыя сваркі.
— А я вынайшла лякарства ад сварак. Я з мужам дамовілася за кожную сварку кідаць у скарбонку па дзесяць злотых.
— І гэты метад памагае?
— Вельмі памагае. У мінулым годзе мы за гэты грошы адпачывалі над морам.

# Прыходзьце без даведак

Першае, што кінулася ў вочы ў вялікім кабінеце, быў плакат «Бюракратызму — бой!» Ён вісеў над галавой чалавека, які выдаваў даведкі.

У кабінет увайшоў чалавек, які выдаваў пыласосы, — служачы бюро пракату. Яму патрэбна была даведка.

— Што вам патрэбна? — спытаў чалавек, які выдаваў даведкі.
— Даведку аб тым, што не ведаю замежных моваў.
— І ўсё? Такія дробязі... А пасведчанне аб шлюбе вы з сабой узялі?
— Не.
— Добра. Права на ваджэнне аўтамабіля пры вас ёсць?
— Няма.
— Вельмі добра. Даведку з медвыцвярэзніка атрымалі?
— Не.
— Выдатна. А другі разрад па рэгбі вам прысвоілі?
— Не.
— Цудоўна! Ну і пасведчання аб заканчэнні курсаў стэнаграфіі і машынапісу ў вас, вядома, таксама няма?!
— Ёсць!
— Ёсць?! — жахнуўся чалавек, які выдаваў даведкі. — А можа пасведчанне аб нараджэнні вы з сабой не ўзялі?
— Ёсць!
— Та-ак, — з сумам працягнуў чалавек, які выдаваў даведкі. — Падвялі вы мяне, таварыш. Я ўжо збіраўся вам даведку выдаць. Разумееце, — працягнуў ён, кіўком галавы паказваючы на плакат, — мы пачалі рашучую барацьбу з бюракратызмам. Цяпер для атрымання даведкі ад наведвальніка патрабуецца толькі з'явіцца да нас. І ніякіх там даведак і пасведчанняў. Вось калі іх у вас не будзе тады і прыходзьце. Міласці просім.

*Аляксандр Куль*



*— Ён, здаецца, былы лётчык?*

*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

Па просьбе Надзі Нікалаюк, Марысі і Веры Манцюк з Мікуліч, Сямяціцкага павета, змяшчаем беларускую народную песню:

## ЯК ПАГНАЛА БАБУЛЕНЬКА КУРАНЯТАК ПАСЦІ

*Захацела бабуленька разам збагацеці,*
*Пасадзіла курачку, каб вывела дзеці.*
*Ды нямнога, толькі трое, куранят прыждала,*
*Не паспелі з гнязда выйсці — пасці іх пагнала.*

*Як пагнала бабуленька куранятак пасці,*
*Сама села на пянёчку кудзелечку прасці.*
*Яшчэ нітак не ссучыла, а ўжо двух згубіла,*
*Сюды туды павярнулась ды на трэцяе спаткнулась.*

*«Ой, божа ж, мой божа, а што мне рабіці?*
*Як прыедзе дзед із лесу, будзе мяне біці!*
*Бедна, бедна, бедна я, бедна галоўка мая,*
*Будзе мяне біці!»*

*Як прыехаў дзед із лесу ды да свае хаты,*
*Пытаецца ў бабуленькі: «А дзе кураняты?*
*Цып-цып-цып-цып-цып-цып, пуль-пуль-пуль-пуль-*
*-пуль-пуль-пуль,*
*А дзе ж куранятьі?»*

*«Як не ведаў, дзедку, так не будзеш ведаць,*
*Вось садзіся лепш за стол, дам табе абедаць.*
*Хадзі, хадзі, мой дзядок, хадзі, хадзі, галубок,*
*Дам табе абедаць».*

*Разгневаўся дзедка, схапіў саламінку,*
*Пабіў бабцы, пахвастаў галаву і спінку:*
*Ой, ёй-ёй-ёй-ёй-ёй-ёй,*
*Галаву і спінку!*



## ЗБЕГ АКАЛІЧНАСЦЕЙ

На ўзлессі каля дуба спыніліся двое паляўнічых. Пастаялі, пакурылі, размаўлялі.

— Пад гэтым дубам мінулага лета я знайшоў ровар, — кажа першы.
— Дзівіся, які збег акалічнасцей! — кажа другі. — Якраз пад гэтым дубам мінулага лета ў мяне нехта ўкраў ровар.

## ВЕДАЕ

— Ведаеш, дружа, — апаражняючы чарговы кілішак, гаворыць асалавелы малады чалавек прыяцелю, — як я крыху больш як трэба вып'ю, у мяне на целе сінія плямы з'яўляюцца.
— Ведаю, — адказвае той. — У маёй жонкі таксама характар строгі.

## АМЕРЫКА

— Ты што такі сумны?
— Хацеў размяняць 500 долараў.
— Няўжо гэта так цяжка?
— Лёгка, але ў мяне іх няма.

# Курёзы

## НЕ СЫШЛІСЯ ПОГЛЯДАМІ

Сенатар ад штата Дакота Уільям Хэлварт развёўся са сваёй жонкай. Прычына ў тым, што сенатарша не падзяляла палітычных поглядаў мужа і вяла з ім пасільную барацьбу хатнімі сродкамі. Яна ўпотай ад мужа перараблялa на свой лад тэксты падрыхтаваных сенатарскіх прамоў. Але пераробка адной з прамоў аказалася настолькі радыкальнай, што сенатар заўважыў, што ён гаворыць з чужога голасу, і вымушаны быў нечакана спыніць выступленне. Скандал скончыўся разводам.

## ПУДЗІЛА НА АЭРАДРОМЕ

З некаторага часу ў лётчыкаў свае разлікі з варонамі. Яны заўважылі цягу гэтых птушак... да ўзлётна-пасадачных пляцовак. Чым жа прыцягвае варон бетонка аэрадрома? Аказалася, птушкі выкарыстоўваюць не для расколвання арэхаў. З вышыні 30—50 метраў птушка кідае арэх на бетонную дарожку, ён расколваецца — застаецца толькі дзяўбсці ласунак. На ташкенцкім аэрадроме, напрыклад, восенню даводзіцца кожны дзень убіраць з бетонных палос шкарлупіны. Але работнікаў аэрадрома непакоіць іншае: сутыкненне з птушкай на вялікай хуткасці не абяцае нічога добрага.

## НА РУКАХ

У 1887 годзе лонданская каманда «Гайд парк» з лікам 0:26 прайграла суседняму «Прэстан Нордс». Пасля гульні пераможаныя на руках вынеслі свайго варатара з поля. Такога гонару ён удастоіўся за тое, што... не дапусціў паражэння з яшчэ больш значным лікам.

# Смяюцца з намі

*Ніхто не спатыкаецца, лежачы на ложку.*